



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

6 студзеня 2017 года №1 (1132)




## Віншуем з Калядамі!

Пакінь свой след у гісторыі Павілля

# 2016 АСОБА ГОДА Юлія Мароз

старонка 2

**Увага! У гэты нумар для тых, хто падпісаўся на "РГ", укладзены каляровы каляндар!**




### На Валожыншчыне дзевяць выпадкаў шаленства

старонка 3

### Чым жыла Маладзечанская вобласць у 1957 годзе

старонка 5

### Топ самых рэдкіх імёнаў за 2016 год у рэгіёне

старонка 21

# Юлія Мароз: “Калі нешта хочаш змяніць, зрабі гэта сам”

**У размове пра сваю перамогу і ўвогуле “Жывую бібліятэку” Юля заўсёды гаворыць “мы”. Таму што арганізаваць нешта важнае аднаму было б проста немагчыма. Пра тое, як завабіць сваёй ідэяй і раскруціць незвычайную і цікавую самому думку, распавядае наша пераможца.**

– У апошнія дні галасавання сябры самі тэлефанавалі, казалі, што я ў спісе. Адказвала, што ведаю, дзякавала за падтрымку. Сама я прагаласавала за **Волю Трубач** – яе запал народнымі танцамі запальвае і іншых.

“Жывая бібліятэка” ў Маладзечне – гэта каманда. Гэта валанцёрскі, ці добраахвотны праект. Я чула пра такую ідэю, была на імпрэзах “ЖБ” у Мінску. Але калі нешта хочаш змяніць у сваім горадзе, зрабі гэта сам.

Маладзечанскі “Рэд бар” дазволіў праводзіць мерапрыемствы ў іх. Арганізатарам мінскай “ЖБ” я распавяла пра ідэю зрабіць такое ж у Маладзечне. Расказала пра свой досвед працы валанцёрам у Паралімпійскіх гульнях у Сочы і на чэмпіянаце свету ў Піцеры. Мяне падтрымалі.

Гэты праект – сацыяльная гульня, у якой ёсць атрыбутыка бібліятэкі. Чалавека, які ўсё арганізоўвае, называем бібліятэкарам. У Маладзечне бібліятэкар я. Тыя, хто прыходзяць “чытаць” – чытачы, а хто распавядае – кнігі. Кожнаму наведніку выдаём картку чытача. Кожная з кніг уключаецца ў каталог. Але некаторым цяжка зразумець, што такое “Жывая бібліятэка” – ці мы там кнігі ўголас чытаем, ці пісьменнікаў запрашаем, ці што?

На самой справе, у нас замест кніг людзі. Яны распавядаюць пра сябе “чытачам”. Кожная кніга расказвае сваю тэму. Напрыклад, жанчына-байкер, невідушчы выкладчык расказваюць пра тое, чым могуць шчыра падзяліцца.

Усё адбываецца так. Складаецца графік, калі якая кніга будзе даступная да чытання. Сесія кожнай з кніг – 30 хвілін. Падчас гэтага кніга расказвае пра сябе, адказвае на пытанні. Пасля кнігі мяняюцца. За гэты год мы правялі шэсць “ЖБ” у горадзе.

А вось людзі, якія мне дапамагаюць, – наша каманда: **Дзіма Зайцаў**, **Ксенія Таратута**, **Юля Пасынак**, **Аня Садоўская**, **Воля Дашкевіч**, **Надзя Багушэвіч**.

## Пра досвед валанцёрства

– Гэтым я пачала займацца падчас вучобы ў лінгвістычным універсітэце. Наша валанцёрская арганізацыя займалася тым, што віншавалі з Новым годам дзяцей. Апраналі касцюмы, шукалі спонсараў, каб былі падарункі. Часам падыходзілі людзі, прасілі, каб іх сыну сказалі, што, калі будзе сябе добра паводзіць, атрымае на Новы год ровар.

> **Аднойчы ў метро да мяне дакранаецца дарослы мужчына і шэпча: “Каб збылося, каб збылося”.**

Часам хадзілі да пенсіянераў ці людзей, якім трэба сацыяльныя работнікі – прыбіраліся ў іх, выбівалі дываны.

Падчас спектакля ў сацыяльным прытулку я заўважыла, што дзецям не трэба цукеркі. Ім трэба кантакт, увага.

Пасля вучобы я вярнулася ў Маладзечна, пачала выкладаць англійскую мову. І шукала новы валанцёрскі занятак. Падала праз інтэрнэт заяўку на працу валанцёрам на гульнях у Сочы. Прайшла тры тэсты. Спачатку на веданне англійскай мовы, затым на псіхалагічныя якасці, а пасля на хуткасць рэакцыі. Вось на апошнім даваліся розныя задачкі і трэба было даваць адказ. Напрыклад, калі трэба сустрэць дэлегацыю з Японіі, якая выехала па сваім часе, розніца ў часе такая, самалёт спазняецца на дзве гадзіны, і ў колькі ты іх сустрэнеш па мясцовым часе?

Калі тэсты я прайшла, мне даслалі запрашэнне на сумоўе праз скайп. Было цікава, бо на кожнае пытанне неабходна даваць адказ з прыкладам. Пытаюцца: “Вам калісьці даводзілася працаваць у камандзе?” Адказваеш: “Так, я гуляла ў валейбол у школе”. І пытанні адно за адным сыплюцца. А затым: “Калі вы апошні раз парушалі правілы?”

І напрыканцы спыталіся, калі я апошні раз была ў лютасці. Я пачынаю думаць, але проста не змагла ўспомніць, а мне ў адказ так стрымана: “Ага”.

Мяне прынялі валанцёрам і далі матэрыялы, якія павінна была вывучыць і здаць па іх тэсты.

Патрабавалася мець экалагічныя веды, таму што самі гульні не могуць быць у разрэз з прыродай. Пасля гэтага я збіраю смецце асобна.

Маёй функцыяй была выдача ўніформы. Былі валанцёры, якія сустракалі дэлегацыі, дапамагалі прэсе, былі на акрэдытацыі, перакладчыкі.

Мы праходзілі, як мець зносіны з людзьмі з інваліднасцю. Напрыклад, без дазволу нельга дакранацца да вазка калясачніка, таму што гэта яго асабістая прастора.

Ехала ў цягніку з Паралімпійскіх гульняў у вагоне, не прыстасаваным для людзей з інваліднасцю. Вазок стаяў у тамбуры. Яго гаспадар не дазволіў дапамагчы, перамяшчаўся па вагоне на руках і частках ног. А цягнік з Паралімпійскіх гульняў!

У нас былі валанцёры сярэбранага і залатога ўзросту. Залатога – гэта за 60, сярод іх была блакадніца.

Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Юлія Мароз.

Мяне непрыемна ўразіў адзін момант. Мне хацелася знайсці беларусаў, а на маёй функцыі іх не было. На адкрыцці гульняў усе заўзеюць, усе на эмоцыях. Выходзяць канадцы, галандцы – і да дзяцей падыдуць, і “пяць” даюць, вітаюцца з усімі. І тут нашы. А мне так важна было ўбачыць беларусаў. Я ім крычу: “Эй, я з Беларусііii!”. Яны мне кідаюць: “Мы таксама”. Добра, што гэта былі не спартсмены, а іх суправаджэнне.

У Беларусі ёсць яшчэ куды развіваць інстытут валанцёрства.

## Што змяняе “Жывая бібліятэка”

“Кніга” расказвае шчыра. І гэта шчырасць так уплывае на чытачоў, што яны выходзяць, нібы прасветленыя.

Проста паразмаўляць з незнаёмым – часам вельмі незвычайна. Мяркую, што наша бібліятэка разбурае стэрэатыпы. Таму што ты слухаеш, як чалавек раскрывае сябе. У нас ніхто нікога не агітуе, ніхто не ставіцца адзін да аднаго негатыўна. Мы чытаем, каб зразумець іншага чалавека. Напрыклад, аднойчы мы запрасілі “дзядулю на роліках” – ён расказваў пра досвед выхавання ў дзетдоме.

“ЖБ” – гэта фармат, які быў бы выдатнай прафарыентацыяй у школе. Калі я думаю пра праект, то разважаю, каму гэта больш трэба – кнігам, чытачам ці мне?

“ЖБ” дапамагае больш спакойна ставіцца да людзей, прымаць іх, размаўляць. Бо калі мы спазняемся, прасцей адчуваць няёмкасць, што спазняемся, чым патэлефанаваць і папярэдзіць. “ЖБ” адкрывае чалавечнасць, дапамагае быць больш адкрытымі і спакойнымі.

## Бліц-апытанне

**1. Якую кнігу цяпер чытаеш?**

“Легенда аб Уленшпігелі” Шарля дэ Кастэра.

**2. Любімы беларускі аўтар.**

Уладзімір Караткевіч, а з яго твораў “Чазенія”.

**3. Які з атрыманых падарункаў самы дарагі?**

Тое, што дораць дзеці. Бо калі дзеці даюць цукерку ці гумку, я разумею, што гэта канкрэтная сімпатыя!

**4. Што запомнілася з таго, што прасіла ў Дзеда Мароза?**

Мая нахабнасць, бо мы з сястрой прасілі яго тройчы: на Новы год, Каляды і стары Новы год. Бацькі шалелі, калі бачылі гэтыя лісты, бо яны з’яўляліся не загадзя, а ў гадзін 11, а раніцай чакалі падарунак.

**5. Страва, якую любіш гатаваць сама.**

Нямнога гатую сама. Яблычны пірог, калі яго можна назваць стравай.

**6. Любімая гульня.**

Шахматы і шашкі. У дзяцінстве гэта было тое, што збірала разам сям’ю.

**7. Кім марыла стаць у дзяцінстве.**

І цырульніцай, і выкладчыцай музыкі. Вучылася іграць на акардэоне сем год. Я пішу левай рукой, і бацькі палічылі, што акардэон дапаможа развіць правую.

**8. Ці ёсць такі прадмет, які вы хацелі б, каб стварылі?**

Хочацца хутка апынацца там, дзе захацелася ці трэба з’явіцца. Чаму б не тэлепорт? Тэлепорт крута, але важней нешта, што, напрыклад, рабіла б усіх здаровымі і шчаслівымі. Але ці было б добра для свету, калі б усе былі аднолькава шчаслівымі? Можа, людзі перасталі б імкнуцца да чагосьці, дапамагаць адзін аднаму.

**9. Любімы колер.**

Сіні.

**10. Чаму варта павучыцца ў прыроды.**

Воўк драпежны не ад кепскіх думак, не каб нашкодзіць. Часам трэба адпускаць сітуацыю, нават калі ўсё ідзе не так, як запланавалі. Часам тое, што ідзе “не так”, перайначваць не трэба, бо на самой справе тое, як атрымліваецца, – лепш.

Калі ты нешта робіш шчыра, то будзеш аддзячаны неабавязкова ад таго чалавека, для каго зрабіў добрае. Але падзякі чакаць не трэба. Я гэта заўважаю.

**11. Чым здзіўляе Сусвет.**

Часам мяне здзіўляюць людзі – і ў добрым, і ў кепскім сэнсе. Здзіўляе цярпімасць прыроды да нас.

**12. Пажаданне чытачам.**

Найперш дзякую, што мы апынуліся ў спісе.

А пажаданне... Мы ўсе вельмі падобныя. Хочацца, каб мы былі адзін да аднаго паважлівыя і прыязныя.

**Зоя ХРУЦКАЯ**

## У нас тры пераможцы конкурсу “Асоба года - 2016”

Сёлета мы вырашылі, што назавём адразу трох пераможцаў нашага конкурсу “Асоба года” ў трох розных намінацыях: “Асоба года”, “Учынак года” і “Натхненне года”. У прэтэндэнты мы абралі 29 кандыдатаў, якіх цягам года адзначылі ў сваіх публікацыях.

Кожны зрабіў нешта важнае, тое, што мае грамадскае гучанне. Галасаванне – толькі дадатковы інструмент выбраць кагосьці аднаго з 29 годных кандыдатаў. Рэдакцыя ж вырашыла далучыцца да выбару чытачоў і назвала яшчэ дзве асобы ў намінацыях “Учынак года” і “Натхненне года”.

Асобай года па выніках галасавання стала 28-гадовая маладзечанка **Юлія Мароз**.

Для нас не было ніякіх сумненняў, што ў спецыяльнай намінацыі “Учынак года-2016” самым дастойным будзе наш зямляк, ураджэнец Астравеччыны, прафесар **Адам Мальдзіс**. Сёлета, калі ў Астраўцы пачалі зразаць векавыя дубы, Адам Іосіфавіч не толькі біў ва ўсе званы, але і заявіў, што адмовіцца ад звання ганаровага грамадзяніна Астраўца, калі дубы знішчаць.

Яшчэ адзін, з адзначаных рэдакцыяй, яшчэ зусім хлопчык, які вучыцца ў Маладзечне. У намінацыі “Натхненне года-2016” рэдакцыя абрала пераможцам **Даніка Савеню**. Невідушчы хлопчык паказвае ўсім, што ў жыцці заўсёды можна і трэба шукаць натхненне, а яго неверагодна прыгожы голас стаў чаканым і любімым тысячамі беларусаў.

Пра віншаванне Адама Мальдзіса і Даніка Савені чытайце ў наступных нумарах.

Жадаем нашым лаўрэатам здзяйсненняў, якія пакінуць светлы і важкі след у гісторыі нашай роднай зямлі.

**Калектыў “РГ”.**



# Ад 1 студзеня кіроўцы павінны карыстацца новымі аптэчкамі

**Міністэрства аховы здароўя аптымізавала пералік аптэчак першай дапамогі, іх склад, а таксама парадак іх камплектацыі.**

У прыватнасці, склад аптэчкі першай дапамогі, якая павінна знаходзіцца ў транспартных сродках, быў скарочаны па колькасці лекавых сродкаў.

Зніклі валідол, гліцэрын, аспірын, парацэтамол, цытрамон і іншыя лекі, паколькі ў аўтамабілі немагчыма забяспечыць захоўванне гэтых прэпаратаў у належных умовах.

У аптэчцы новага ўзору пазначаны тып жгута, якім спыняюць крывацёк, памер стэрыльных сурвэтак і нажніц, а таксама павялічылася колькасць перавязачнага матэрыялу.

Аўтааптэчкі па новых патрабаваннях сфарміраваны з улікам аказання першай дапамогі пры траўмах, таму ў іх павялічана колькасць перавязачных сродкаў. Гэта дазволіць больш якасна аказаць першую дапамогу ў экстранных сітуацыях на дарогах, напрыклад, хутка правесці перавязку, спыніць крывацёк і давезці чалавека да бліжэйшай установы аховы здароўя.

За адсутнасць аўтааптэчкі прадугледжаная адміністрацыйная адказнасць у выглядзе папярэджання або штрафу ў памеры да 1 базавай велічыні.

Аўтааптэчка новага ўзору

Змянілася:

колькасць і склад упаковак бінтоў і лейкапластыраў

патрабаванні да стэрыльных сурвэтак

з пераліку выключаны валідол і гліцэрына трынітрат

Кошт аптэчкі у Маладзечне – 14,63 руб

Да ўвагі аўтаўладальнікаў: дзяржаўтаінспектар мае права пераканацца толькі ў наяўнасці аптэчкі, яе змест правяраецца падчас тэхагляду.

Інфографіка Наталлі ТУР.

Пералік сродкаў, якія ўваходзяць у аўтааптэчку новага ўзору:

У любой аўтамабільнай аптэчцы павінны быць:

*Раствор амонію 10% – 1 мл №10 (фл. 10 мл, 40 мл).*

*Ёду спіртавы раствор 5% – 10 мл (40 мл) або 1 мл №10, адна ўпакоўка.*

*Бінт медыцынскі стэрыльны 5 м x 10 см, адна ўпакоўка.*

*Бінты медыцынскія нестэрыльныя 5 м x 10 см. Дзве ўпакоўкі*

*Бінт медыцынскі нестэрыльны 5 м x 5 см, таксама дзве ўпакоўкі.*

*Бінт медыцынскі эластычны трубчасты нестэрыльны №1, 3, 6.*

*Вата гіграскапічная стэрыльная 50 г.*

*Жгут кроваспыняльны Эсмарха.*

*Лейкапластыр бактэрыцыдны: 2,5 х 7,2 см – 3 ўпакоўкі і 4 х 10 см або 6 х 10 см – 1 ўпакоўка.*

*Лейкапластыр шпулечны 1 × 500 см або 2 × 500 см, адна ўпакоўка.*

*Нажніцы тупаканцовыя 14 см (1 упакоўка).*

*Пальчаткі латэксныя назіральныя нестэрыльныя (стэрыльныя) №8 (L), адна пара.*

*Партатыўны гіпатэрмічны (ахаладжальны) пакет, адна ўпакоўка.*

*Сурвэткі стэрыльныя 16х14 (45х29) см, 4 упакоўкі.*

*Інструкцыя па ўжыванні укладанняў, якую можна купіць у любой аптэцы.*

**Аддзел інфармацыі.**

## Сёлета ў Валожынскім раёне выявілі дзевяць выпадкаў шаленства

**ВАЛОЖЫН**

Галоўны ветэрынарны доктар Валожынскага раёна **Сяргей Шупенька** спяшаецца супакоіць жыхароў Валожыншчыны:

– За год мы фіксуем ад 8 да 20 выпадкаў шаленства. Сёлета іх было дзевяць. Але гэта не значыць, што трэба расслабляцца, бо шаленства – хвароба небяспечная і нават смяротная.

Сяргей Шупенька расказвае, што ў лясных масівах ветэрынарная служба рэгулярна з паветра раскідвае прынады для драпежнікаў з вакцынай ад шаленства. Лягсаы праводзяць планавы адстрэл жывёл.

А калі раптам у ветэрынарную службу паступае паведамленне з населенага пункта пра тое, што там бачылі звера з падазрэннем на шаленства, туды тут жа выязджаюць ветэрынары і санстанцыя. Праводзіцца бясплатная вакцынацыя свойскіх жывёл.

Часцей за ўсё трапляюцца шалёныя лісіцы.

– Гэта тлумачыцца тым, што амаль не засталося паляўнічых, якія палююць менавіта на лісіц. Таму што патроны каштуюць даражэй, чым потым прадаць шкурку лісіцы.

Калі ўзнікае небяспека шаленства, трэба памятаць наступнае:

– Калі вас укусіла жывёла, неабходна старанна прамыць рану цягам не менш за 15 хвілін струменем вады з мылам, апрацаваць краі раны 5% настойкай ёду і неадкладна звярнуцца ў медыцынскую ўстанову.

– Калі вы заўважыце жывёлу з прыкметамі шаленства ў населеным пункце, неадкладна паведаміце пра гэта ў МНС, лясгас або ветэрынарную службу.

**Наталля ТУР.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 29.12 | 5.01 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9519 | **1,9707** |
| Еўра | 2,0430 | **2,0534** |
| Злоты, 10 | 4,6365 | **4,6600** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2182 | **3,2297** |
| Грыўня, 100 | 7,3266 | **7,2568** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 28.12 і 4.01** | | |
| Еўра | 2.0200/2.0450 | **2.0300/2.0600** |
| Долар ЗША | 1.9400/1.9600 | **1.9550/1.9750** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 28.12 | 4.01 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 15,99 | **15,99** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,13 | **7,13** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,26 | **3,26** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **4,18** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,50 | **14,50** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,50 | **1,50** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,35 | **2,35** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,80** |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | **0,65** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 4,50 | **4,50** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 6,95 | **6,95** |
| Капуста, 1 кг | 0,37 | **0,37** |
| Морква, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,69 | **1,69** |
| Лімоны, 1 кг | 3,39 | **1,49** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,99 | **2,95** |
| Мандарыны, 1 кг | 2,69 | **2,79** |
| Гранаты, 1 кг | 3,75 | **3,75** |
| Ківі, 1 кг | 3,45 | **3,49** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Памідоры, 1 кг | 3,85 | **2,95** |
| Агуркі, 1 кг | 4,45 | **4,45** |
| Перац, 1 кг | 4,95 | **4,49** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,90 | **2,40** |
| Вінаград, 1 кг | 3,75 | **3,75** |
| Бананы, 1 кг | 1,95 | **1,95** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,45 | **1,39** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 2,39 | **2,99** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,50 | **1,50** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,30 | **0,30** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |
| Мёд, 0,5 л | 6,00 | **6,00** |

## Трактарнае кола забіла 23-гадовага слесара

МАЛАДЗЕЧНА

Трагедыя здарылася 27 снежня недалёка ад вёскі Капачы, дзе работы вяла будаўнічая арганізацыя з Мінска.

У гэты дзень сюды прывезлі кола, каб усталявіць яго на каток, які выкарыстоўваецца ў будаўнічых работах.

Кола даставілі на грузавой машыне з маніпулятарам слесар з кіроўцам.

Як расказаў старшы следчы маладзечанскага Следчага камітэта **Юры Багушэвіч**, слесар 1993 года нараджэння залез у кузаў, прычапіў кола крукамі маніпулятара і злез на зямлю.

У час разгрузкі кола сарвалася, адскочыла ад борта машыны і трапіла ў слесара.

Малады чалавек загінуў на месцы ад шматлікіх пераломаў і пашкоджанняў унутраных органаў. Алкаголю ў яго крыві не было.

Загінулы быў ураджэнцам Магілёўскай вобласці, жыў у Заслаўі.

## Самазабойства ў Кобузях: у вёсцы на Вілейшчыне павесіўся мужчына

ВІЛЕЙКА

Удзень 2 студзеня ў вёсцы Кобузі на Вілейшчыне павесіўся мясцовы жыхар.

У Вілейскім РАУС расказалі, што мужчына нідзе не працаваў, злоўжываў спіртнымі напоямі.

Перад святамі ён выйшаў з ізалятара Вілейскага РАУС, куды перыядычна трапляў за дзёбш у нецвярозым стане.

Павешанага мужчыну знайшлі ва ўласным хляве.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Падчас навагодніх святаў забілі жанчыну

МАЛАДЗЕЧНА

У адным з дамоў у Маладзечне жыхар вёскі Крывая Бяроза Смалявіцкага раёна нажом забіў гаспадыню.

Здарэнне адбылося каля трох гадзін ночы пасля сумеснага распівання спіртных напояў.

Забітая жанчына – 1978 года нараджэння. Яна нідзе не працавала.

Мужчыну, якога падазраюць у забойстве, затрымалі.

Паводле сайта МУС.

## У Ракаве скралі штучную ёлку

ВАЛОЖЫН

Перад Новым годам з прыватнага ўчастка ў Ракаве на Валожыншчыне знікла ёлка.

Верагодна, дэкаратыўнае дрэва скралі паміж 27 і 29 снежня.

Зялёнай прыгажуні пазбавіліся гаспадары дома па вуліцы Набярэжнай. Шкода ад выкрадання дрэва складае 90 беларускіх рублёў.

Злачынец пакуль не ўстаноўлены. 29 снежня ўзбудзілі крымінальную справу па артыкуле "крадзеж".

Паводле БелТА.

## На Ашмяншчыне перакуліўся "Сітраэн"

АШМЯНЫ

Аварыя адбылася раніцай 2 студзеня каля вёскі Людвікоўшчына.

Кіроўцу аўтамабіля занесла на левую ўзбочыну. Пасля машына перакулілася на бок. Мужчыну аказалі медыцынскую дапамогу.

Для ўстанаўлення цяжкасці атрыманых траўмаў прызначылі судова-медыцынскую экспертызу.

Паводле gaigrodno.by.

# Пад Маладзечнам сутыкнуліся чатыры машыны

МАЛАДЗЕЧНА

Раніцай 3 снежня адбылася аварыя ля новага маладзечанскага мясакамбіната.

Як расказалі ў ДАІ Маладзечна, на аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач малакавоз "Вольва", якім кіраваў 53-гадовы мужчына, сутыкнуўся з аўтамабілем "Сітраэн".

У выніку малакавоз выехаў на паласу сустрэчнага руху. Тут адбыліся лабавыя сутыкненні са "Шкодай" і "Газэллю".

Па словах супрацоўнікаў маладзечанскага Следчага камітэта, кіроўца "Газэлі", 35-гадовы мужчына, загінуў. Двух пасажыраў, якія ехалі разам з ім, шпіталізавалі з траўмамі. І загінулы кіроўца, і пасажыры – жыхары Мінска.

Кіроўцы "Шкоды" і "Вольвы" не пацярпелі.

Аддзел інфармацыі.


Фота "Рэгіянальнай газеты".

На месцы здарэння.

## ДАІ шукае сведкаў здарэння на дарозе Мінск-Маладзечна-Нарач

МАЛАДЗЕЧНА

Раніцай 17 снежня кіроўца аўтамабіля "Крайслер-Пацыфіка", рухаючыся па дарозе Мінск – Маладзечна, на 53 км выехаў на паласу сустрэчнага руху, дзе сутыкнуўся з аўтапоездам у складзе спецыяльнай цыстэрны аўтамабіля МАЗ 533702 240 і прычэпа GKB 8352.

Просьба сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС.

Адрас: вуліца Тамары Дудко, 1-18. Тэлефоны: **8 (0176) 74-53-40, 74-53-43** альбо **102.**

Сяргей БАРТОШ,
дзяржаўтаінспектар
аддзела ДАІ,
капітан міліцыі.

## У другі дзень новага года на Вілейшчыне адбылося шэсць аварый

ВІЛЕЙКА

У святочныя дні рэзка ўзрасла колькасць дарожна-транспартных здарэнняў у Вілейскім раёне, расказала намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

За 2 студзеня на дарогах Вілейшчыны адбылося шэсць аварый. Па словах Кацярыны Млечкі, асноўная іх прычына – неспрыяльнае надвор'е.

Адзін кіроўца, які з'ехаў учора днём у кювет недалёка ад вёскі Вязынь, быў ў нецвярозым стане.

Ва ўсіх здарэннях ахвяр няма.

Аксана ЯРАШОНАК.

СЛУЖБА 101

## Падрабязнасці двух пажараў на Ільяншчыне

ВІЛЕЙКА

28 снежня на Ільяншчыне былі два пажары, якія здарыліся амаль адначасова.

У Вілейскім аддзеле МНС расказалі, што паведамленне пра пажар у Ільі выратавальнікі атрымалі 28 снежня каля 10:30. Калі брыгада прыехала на месца, адкрытым полымем гарэла палова даху.

Гаспадар быў дома і спрабаваў сам патушыць пажар вадой з палівачнага шланга. Аднак у яго не атрымалася. Згарэла палова даху, сцены знутры, пашкоджаная маёмасць.

У час тушэння пажару ў Ільі паведамілі пра пажар у суседняй вёсцы Дварэц. Частка пажарных машын паехала туды. У доме ў Дварцы таксама гарэла частка даху.

Гаспадыня была дома, яна заўважыла пажар і патэлефанавала выратавальнікам. Згарэла частка даху, пашкоджаны перакрыцці і маёмасць.

Прычыны абодвух пажараў устанаўліваюць.

## Выратавалі рыбака на Астравеччыне

АСТРАВЕЦ

2 студзеня астравецкім выратавальнікам прыйшло паведамленне пра чалавека, які тануў на возеры ў Кемелішках.

Мясцовы жыхар праваліўся пад лёд у 25 метрах ад берага. Дзяжурнаму пра здарэнне паведаміў вучань 10-га класа мясцовай школы.

Супрацоўнікі МНС выратавалі 58-гадовага мужчыну.

Мяркуецца, што ён быў п'яны, паведамляе МНС. Ад шпіталізацыі адмовіўся, пайшоў дамоў.

## Ад апёкаў, атрыманых на пажары, памёр пенсіянер

МАЛАДЗЕЧНА

4 студзеня ноччу ў бальніцы ад апёкаў, атрыманых на пажары, памёр пенсіянер з вёскі Новая Радашкавіцкага сельсавета.

Пра пажар у маладзечанскі аддзел МНС паведамілі 2 студзеня каля 23:00. Гарэў жылы дом у вёсцы Новая.

Да прыбыцця падраздзяленняў МНС гаспадара дома, 66-гадовага мужчыну, выратавалі мясцовыя жыхары.

Пацярпелага з апёкамі 1-4 ступеняў усяго цела адвезлі ў бальніцу.

Каля трох гадзін ночы мужчына памёр.

Прычыны пажару высвятляюць.

## У Смаргоні гарэла аднапакаёўка

СМАРГОНЬ

Вечарам 3 студзеня паведамілі пра пажар у пяціпавярховым доме па вуліцы Савецкай.

Гарэла аднапакаёвая кватэра на трэцім паверсе. Пашкоджаная пасцель.

Выратавальнікі не прыцягваліся. Верагодная прычына – неасцярожнасць падчас курэння.

Аддзел інфармацыі
паводле МНС.

УВАГА! ВЫШУК

## Знік 25-гадовы інвалід трэцяй групы

МАЛАДЗЕЧНА

Маладзечанская міліцыя шукае зніклага **Дзяніса Алегавіча Быкава.**



Яму 25 год. Жыве ў Маладзечне па Вялікім Гасцінцы. Інвалід трэцяй групы.

Раніцай 20 снежня ён паехаў у Мінск, і дагэтуль яго месцазнаходжанне невядомае.

Прыкметы: на выгляд 24 гады, хударлявы, рост 175 сантыметраў, цёмнарусыя прамыя валасы. Не мае левага вока.

Быў апрануты ў шэрую шапку, чорную куртку з капюшонам, цёмна-сіні світар, сінія джынсы, чорныя чаравікі.

Пераканаўча просім, калі вы штосьці ведаеце пра яго месцазнаходжанне, паведаміце па адным з нумароў: (80176) 74-96-83, 77-16-56 ці 102.

Валянцін АСІПОВІЧ,
начальнік
Маладзечанскага РАУС.





С каждым днем хорошеет, растет и благоустраивается город Молодечно. Здесь построены десятки многоквартирных жилых домов. В этом году начнет давать пр дукцию завод железобетонных изделий. Прекрасное здание получила недавно городская поликлиника. Открыто несколько новых магазинов. Заканчивается строительств школы-десятилетки, возводится много жилых зданий.

На снимке: общий вид улицы Революционной г. Молодечно.

Фото С. Цоколова.

# Перасяленне, новабудоўлі і развод з грамадзянкай Соф'інай

МАЛАДЗЕЧНА

**Або чым яшчэ жыла Маладзечанская вобласць у 1957 годзе.**

У мінулым нумары мы пачалі расказваць, чым вызначыўся год Пеўня ў гісторыі рэгіёна.

Спачатку нам хацелася прытрымлівацца храналагічнага парадку ў сваім аповедзе, але калі нам у рукі трапіла падшыўка абласной газеты “Чырвоны сцяг” за 1957 год, мы вырашылі, што трымаць пры сабе ўсе гэтыя падзеі мы проста не зможам.

Так хочацца хутчэй імі падзяліцца, а магчыма, і спытацца ў вас, паважаныя чытачы, можа, хтосьці памятае, як гэта было. Раскажыце і вы пра свае ўражанні ад года Пеўня 50-гадовай даўніны.

А было гэта так...

У 1957 годзе адзначалася 75-годдзе беларускіх песняроў **Янкі Купалы і Якуба Коласа**.

Да юбілею Янкі Купалы і прымеркавалі адкрыццё помніка ў Радашкавічах.

Тым жа летам у кожным нумары газеты друкавалася аб'ява пра тое, што адбываецца перасяленне калгаснікаў, рабочых і служачых для працы ў Цюменскай, Томскай абласцях, у Карэлію і Казахстан.

У аб'яве значылася, што перасяленне адбываецца добраахвотна, што для гэтага трэба, каб у сям'і было не менш за два працаздольныя чалавекі, што ўсім перасяленцам будзе выплачана дапамога ў памеры ад 600 да 1000 рублёў. Праезд і перавоз рэчаў бясплатныя, акрамя таго, на новым месцы жыхарства перасяленцы будуць забяспечаныя кватэрамі і ўчасткамі, а таксама будзе выдадзены крэдыт на куплю скаціны і будоўлю дома.

Цікава, ці шмат тады маладзечанцаў з'ехала ў Цюмень?

Аб'явы ў тых газетах – тэма асаблівая.

У іх паведамлялася, што ў горадзе пачало працаваць пахавальнае бюро.

А дзе цяпер прачытаеш, што грамадзянін Соф'ін спяшаецца расказаць, што ён разводзіцца з грамадзянкай Соф'інай і што справу будзе разглядаць народны суд?

У 1957 годзе такіх аб'яў за год было ўсяго некалькі.

Вельмі багаты гэты год быў на новабудоўлі. Пра што абласная газета рэгулярна паведамляла сваім чытачам.

У 1957 годзе ў Маладзечне пабудавалі будынак санэпідэмстанцыі. Гарадская паліклініка таксама размяшчалася ў гэтым двухпавярховым будынку.

Сярэдняя школа №5 адкрыла свае дзверы 1 верасня 1957 года.

Будаваліся жылыя дамы і заводы:

“Цяпер у працэсе завяршэння цэлы шэраг новабудоўляў: швейная фабрыка на 300 машын, завод жалезабетонных канструкцый, півоварны завод, мотарамонтны завод, завод па вырабе гумавага даху, хлебазавод і шэраг іншых прадпрыемстваў”, – піша абласная газета.

50 гадоў таму з Маладзечна ў Мінск рэгулярна ездзілі аўтобусы. А вы думаеце, што маршруткі з'явіліся нядаўна?

І ў 1957 годзе ў Маладзечне адкрыўся першы супермаркет – магазін самаабслугоўвання, як пісалі тады. Размясціўся ён на рагу былых вуліц Кірава і Рэвалюцыйнай.

Дзе гэта месца, здагадаецеся?

У той год у Маладзечне былі тры гарадскія маршруты, на якіх працавалі 13 аўтобусаў.

**Кіно можна было паглядзець у двух гарадскіх кінатэатрах, а кніжкі пачытаць у трох бібліятэках.**

Аднак не ўсе грандыёзныя планы збыліся.

Напрыклад, маладзечанцам абяцалі, што ў хуткім часе на Цэнтральнай плошчы з'явіцца драматычны тэатр на 800 месцаў і пабудуецца трэці кінатэатр.

### У Смаргоні было 10 тэлевізараў

Не забывалася абласная газета і пра падзеі ў раённых цэнтрах.

У артыкуле пра тэлебачанне тагачасна журналісты пішуць:

– Больш за 10 тэлевізараў працуюць у Смаргоні, якія на адлегласці 107 кіламетраў прымаюць сігнал з Мінска.

А ў Любані якраз завяршалі будаўніцтва аўтаматычнай тэлефоннай станцыі аж на 50 нумароў.

Артыкул называўся “Першая ў вобласці”.

– Аўтаматычная тэлефонная станцыя дазволіць 44 абанентам мець кругласутачную тэлефонную сувязь як паміж сабой, так і з горадам Вілейка.

У Валожыне змагаліся з лайдакамі і хуліганамі.

“Днём у Пяршаях стаіць цішыня. І толькі з аднаго дома даносіцца храп. Гэта – адзіны калгаснік, які не выйшаў на поле. Вы не думайце, што ён стары або хворы. Хвароба 20-гадовага **Рамана Ждановіча** называецца лянота”, – піша газета.

Рубрыка “Здарэнні” ў газеце таго года была не частай, але расказвала пра такія вось:

– Брылеўскі К.П. вядомы ў вёсцы Вішнева Валожынскага раёна сваімі п'янымі дэбошамі. Некалькі разоў у нецвярозым стане ён чыніў скандалы ў сельскай бальніцы. У лістападзе збіў санітарку і толькі пры дапамозе хворых хулігана ўціхамірылі.

– А што мне за гэта будзе, – разважаў Брылеўскі, – калі яго саромілі. – Ну, адсяджу сутак 15 і выпусцяць.

На днях глыбокім вечарам ён уварваўся ў бальніцу. Падняў скандал, лаяў нецэнзурнымі словамі медработнікаў, разбіў у бальніцы тры акны, ускочыў у радзільнае аддзяленне, дзе знаходзіліся мамы з немаўлятамі.

Брылеўскага арыштавалі міліцыянеры. Яго будуць судзіць.

А Ашмяны будаваліся.

У 1957 годзе тут з'явіліся тры жылыя дамы, магазін, клуб, корпус сельскагаспадарчага тэхнікума, школа, лазня, добраўпарадкавалі гарадскі парк. А самае галоўнае, тут з'явіўся льнозавод.



МАГАЗИН БЕЗ ПРОДАВЦА

На углу улиц Кирова и Революционной в новом 33-х квартирном доме открыт продовольственный магазин № 31. Магазин работает по методу самообслуживания. В нем имеется большой выбор продовольственных товаров в фасованном виде.

В первый день работы магазин посетило большое количество покупателей. Покупатели проявляют интерес к новой форме торговли.

А. ГУМИНСКИЙ.

На снимке: покупатели г. Молодечно в новом магазине выбирают продукты.

Фото М. Асаевича.

Багаты на падзеі быў 1957 год. Паглядзім, у які яшчэ год Пеўня занясе нас у наступны раз.

**Наталля ТУР.**



Дзесяцігадовы юбілей маладзечанскага моладзевага музычнага народнага тэатра аб'яднаў як прыхільнікаў моладзевага тэатра, так і маладых музыкантаў, слухачоў. На сцэне салісты разам са сваімі выкладчыкамі. Фота molodeparchy.by.

# Маладзечанскі моладзевы музычны народны тэатр адзначыў 10-годдзе гала-канцэртам

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзесяцігадовы юбілей калектыў моладзевага музычнага народнага тэатра адзначыў грандыёзным гала-канцэртам, які адбыўся летась 20 снежня ў Палацы культуры. Там жа праходзілі ўсе прэм'ерныя спектаклі.**

Артыстамі сімфанічнага аркестра кіраваў дырыжор **Рыгор Сарока**, змяшаным хорам каледжа – **Вера Каханоўская**, салістамі сталі навучэнцы і выпускнікі вакальнага аддзялення **Рыгор Юрэвіч, Маргарыта Васілевіч, Пётр Туранок**, былі і запрошаныя салісты.

Напачатку ад імя раённага выканаўчага камітэта і Савета дэпутатаў выступіў **Аляксандр Яхнавец**, які ўручыў ганаровыя граматы і падзячныя лісты прадстаўнікам тэатра.

Гледачам паказалі інфармацыйны фільм пра значныя падзеі моладзевага музычнага народнага тэатра і фільм-прэзентацыю салістаў-вакалістаў музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага, якія ўсхваляюць вакальнае аддзяленне сваёй вучэбнай установы.

**Юбілейная праграма была прысвечаная бліскучым старонкам шэдэўраў сусветнай опернай музыкі. Гала-канцэрт складаўся з двух аддзяленняў.**

Для публікі спявалі былыя выпускнікі Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага, а цяпер яго выкладчыкі **Мікалай Карпіевіч** і лаўрэат міжнародных конкурсаў **Наталля Шыбко**; студэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, уладальнік сярэбранага і залатога медаля еўрапейскіх дэльфійскіх гульняў **Андрэй Мацюшонак**.

У вобразе Фарлафа перад гледачамі паўстаў **Мікалай Карпіевіч** (опера **Міхаіла Глінкі** "Руслан і Людміла"), у вобразе Сільвы быў Мікалай Шыбко (аперэта "Сільва" **Імрэ Кальмана**), у вобразе Ёнтака Андрэй Мацюшонак (опера "Галька" **Станіслава Манюшкі**).

## На сцэне спантанна ўзнікла трыа

У другім аддзяленні выступілі выпускнікі Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі: саліст Вялікага тэатра Масквы **Павел Валужын**, лаўрэат міжнародных конкурсаў, удзельнік праграмы маладых спевакоў імя Пласіда Дамінга, уладальнік Гранд-прэміі і лаўрэат прэміі Прэзідэнта Беларусі, саліст оперных тэатраў Лос-Анджэлеса і Вены **Уладзімір Дзмітрук**.

У кампазіцыі "Заказаны салдат" сольныя нумары спантанна дапоўніліся ўзніклым трыа з Андрэем Мацюшонкам.

У фінальным нумары была выкананая сусветна вядомая "Застольная" з оперы "Травіята" **Джузепе Вэрдзі**. У нумары саліравала наша госця – фіналістка праекта "Вялікая опера" расійскага канала "Культура" спявачка **Яўгенія Шарынянц**.

Сапраўдным аздабленнем канцэрта сталі выступленні выпускніка Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі, саліста Марыінскага тэатра **Уладзіміра Сулімскага** і саліста Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, лаўрэата прэстыжных міжнародных конкурсаў, чатырохразовага лаўрэата і ўладальніка Гранд-прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі **Анатолія Сіўко**.

Сольныя нумары артыстаў адрозніваліся напружаннем пачуццяў, асаблівай эмацыйнасцю. У дуэце Эцыа і Атылы з оперы Джузепе Вэрдзі "Атыла" вакалісты прадэманстравалі віртуознае валоданне галасамі, выдатнае пачуццё ансамбля як унутры дуэта, так і з сімфанічным аркестрам.

## Маладосць, парыў, імкненне захапляюць усіх

Мерапрыемства аб'яднала як прыхільнікаў моладзевага тэатра, гасцей, так і маладых музыкантаў, слухачоў.

**У музычным каледжы ўпэўненыя, што музыкант, які ўвесь час імкнецца ўдасканальвацца, цікавейшы за музыканта, які дасягнуў мэты.**

Музычны тэатр у Маладзечне, магчыма, саступае трупам прафесійных тэатраў, але мае істотную перавагу – тут можна ўбачыць творчасць пачынаючых оперных артыстаў, артыстаў хору і аркестра. Вакалісты-навучэнцы стараюцца праявіць сябе як можна ярчэй, імкнуцца справіцца з хваляваннем, шчыра перажываюць на сцэне, даючы партнёру і такім чынам атрымліваюць каштоўны досвед. Маладосць, парыў і імкненне захапляюць усіх.

Яўгенія РУКЕВІЧ,
выкладчыца музычнага каледжа.

**Даведка "РГ".** Ідэю стварыць музычны тэатр прапанаваў у 2006 годзе дырэктар музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага кавалер ордэна Францішка Скарыны Рыгор Сарока. Гэты сапраўды авантурны праект знайшоў увасабленне з дапамогай выканаўчых сіл сімфанічнага аркестра, вакальнага і харавога аддзяленняў музычнага каледжа імя Міхала Клеафаса Агінскага, кіраўніка і работнікаў Палаца культуры Маладзечна.
За дзесяць гадоў калектыў тэатра падрыхтаваў да паказу класічныя сусветныя оперы: Пятра Чайкоўскага "Яўген Анегін", "Іаланта", Джузепе Вэрдзі "Травіята", Жоржа Бізэ "Кармэн". Па ініцыятыве кіраўніка тэатра Рыгора Сарокі да 250-годдзя юбілею з дня нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага склалі і падрыхтавалі да паказу оперу беларускага кампазітара Алега Залётнева "Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт", стварылі партытуру гэтага твору.

## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

- Аўтапрычэп "Зубраня", 1994 г.в., у выдатным стане. Т. (8-044) 7182499.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637.*
- ВАЗ-11113, Ока 075, 1999 г.в., пасля капрамонту, 800 руб. Маладзечанскі р-н. Т. (8-029) 3790419.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., 1,3 бензін, белы колер. Вілейка. Т. (8-029) 3784192.
- ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газ-бензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.
- Запчасткі б/у да Аўдзі-80 В3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*
- Запчасткі б/у да ФВ-Пасат В3. Т. МТС (8-029) 8777677.*
- Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.
- Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.
- Чыры-Тыга, 1,8Б, 2010 г, красовер, усё працуе, 9000 рублёў. Т. (8-029) 5676832.

**КУПЛЮ**

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*
- Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*
- **Аўтамабіль 1990-2015 г. выпуску, можна аварыйны альбо з дэфектамі.** Т. (8-044) 4777710, 98-029) 7685852.*
- Аўтамабіль на запчасткі, можна аварыйны. Т. Вэлком (8-029) 3232949.*
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Аўто у любым стане. Дорага. Т. МТС (8-033) 3049451.*
- Аўто, якое патрабуе тэрміновага продажу (іншамарку). Т. МТС (8-029) 8762233.*
- Аўто. Можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*
- Для сябе іншамарку, на хаду, можна аварыйную ці з дэфектамі. Т. (8-029) 7703210, (8-029) 1696265.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |

**ПАСЛУГІ**

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 5 паверх, без рамонту. Т. (8-029) 1652325.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Ф. Скарыны 2, 2/5, 30 кв.м. (8-044) 5945463.
- 2-пакаёвая кватэра ў 3-кватэрным блакіраваным доме ў Маладзечна без пасярэднікаў. Т. МТС (8-029) 5766527.*
- 2-пакаёвая кватэра, 47,9 кв. м, у Вілейцы па вул. Чапаева. Т. (8-029) 7660483.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Т. (8-029) 5527421.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*
- 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*
- Дом у в. Каловічы. Т. (8-033) 3501070.

**ЗДАМ**

- Пакой для хлопца ў Маладзечне. Т. 98-029) 5719435.
- **У АРЭНДУ БУДЫНКІ, ЯКІЯ СТАЯЦЬ АСОБНА, ПАД СКЛАД АЛЬБО ВЫТВОРЧАСЦЬ ПЛОШЧАЙ 100, 200, 300 кв.м. ЦАНА ЗА 1 кв.м – 1 руб. 20 кап. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- У арэнду гандлёвы павільён у цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 8617331.
- У арэнду плошчы ад 12 до 100 кв.м. Т. (8-029) 7662646.*

## ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

- Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*
- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

**ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА**

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

**ГРУЗАПЕРАВОЗКІ**

- **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

- Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- **ВЫРАБ МЭБЛІ** па індывідуальных праектах (кухні, шафы-купэ). ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- Кладка, дах, фундамент, адздзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*
- Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*
- Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*
- Рамонт камп'ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 36. Наяўны і безнаяўны разлік. http://mir-computerov.by ІП Тачылаў А.Н. УНП 691290239. Т. (8-029) 5754003, (8-029) 1559223, (8-0176) 551702.*
- Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*
- **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко В.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347.*
- Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-029) 3039740, (8-033) 6228190. Уладзімір.*
- Фундаменты і дах, рамонт дымаходаў. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*
- Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*



## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Будматэрыялы, сантэхніка**

- Арматура, сетка для сцяжкі, гідраізаляцыя, труба металічная. Дапамагу з дастаўкай. Т. МТС (8-029) 7737697.*
- Блокі газасілікатныя, цэгла. Наяўны і безнаяўны разлік, дастаўка. ІП Арлова В.Р. УНП 590976095. Т. (8-029) 6650413 (Вэлком), (8-029) 2275708 (МТС).*
- Вагонка для лазні (вольха), для дома (сасна). Дошкі для падлогі. Брус усіх памераў, блок-хаўс, імітацыя бруса. Дастаўка. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*
- Вароты з сеткі-рабіцы, памер 1,5х3,0, брамкі 1,5х1,0, арматура дыяметрам 8,10,12, сетка пад сцяжку 100х100х3, 150х150х4, 50х50х4. Т. (8-029) 6513000.*
- **ПЛІТЫ ПЕРАКРЫЦЦЯ, ПГ6-4 (ПАМЕР 6,0х1,5 м) ПА ЦАНЕ 50 РУБ ЗА 1 ШТ. Т. (8-029) 1969033, 1969043, (8-0176) 753513.***
- Сетка рабіца 1,5-1,8 м в., 50 шт, слупы металічныя. Арматура d 8,10,12 – 1800 м п., вугалок 40 м п., труба профільная 300 м п. Т. МТС (8-033) 6603068.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**

- **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*
- **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцераль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

- **БАРАНЫ І АВЕЧКІ ЖЫВОЙ ВАГОЙ, МЯСАМ.Т. (8-029) 6769359.**
- Кабан жывой вагой альбо мясам. Т. Вэлком (8-044) 5165491.*
- Кныр в'етнамскай віслабрухай пароды, нядорага. Т. (8-029) 6237550.*
- Свіння жывой вагой альбо мясам. Т. (8-029) 9714041.

**Іншае**

- **ДЗВЕРЫ МІЖПАКАЁВЫЯ І МЕТАЛІЧНЫЯ** стандартных і нестандартных памераў. Замер. Дастаўка. Устаноўка. ІП Васілеўскі В.Б. УНП 692011556. Т. (8-029) 6157520, (8-029) 7757788.*
- Пілавінне, 16 куб.м, з дастаўкай. Т. (8-029) 7876438*.
- Зруб з кругляка 6х4 м, выдатная якасць. Т. (8-029) 9426956, (8-029) 9426958.*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

**КУПЛЮ**

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Камень, шчэбень. Т. (8-029) 6260525.

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• Акустычныя калонкі, узмацняльнік, ноўтбук, сістэмны блок, манітор, ЖК-тэлевізар, можна на запчасткі. Т. (8-029) 5613972.*

**Антыкварыят**

• **АНТЫКВАРЫЯТ, ФОТААПАРАТЫ, ГАДЗІННІКІ, ГРАМАФОНЫ, АБРАЗЫ, МЭБЛЮ, ФАРФОР І ІНШЫЯ СТАРАЖЫТНЫЯ РЭЧЫ.** Т. (8-0176) 542987, (8-029) 6564854.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. "Беларуская Энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Пілавінне ў вялікіх аб'ёмах. Маладзечна. Т. (8-029) 5612055.*

• Кнігу "Памяць" розных рэгіёнаў. Т. (8-029) 5019550.*

• Кнігу "Памяць", розныя раёны. Т. (8-044) 7982430.*

• Рогі лася, шкуркі куніцы. Т. (8-029) 8552646.*

• Сена, салому. Т. (8-029) 6051424.*

• Аддам кацянят у добрыя рукі. Т. (8-033) 3841175, (8-029) 5772294.

**ЗГУБЛЕНА**

• Прапаў сабака руская гончая светла-карычневага акрасу (рыжы) ў раёне вёскі Раёўка. Просьба пазваніць. Узнагароджанне. Т. (8-029) 6363017.

**ПРАЦА**

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Аддзелачніка: тынкоўка, шпаклёўка, шпалеры, уцяпленне, адкосы, гіпсакардон і інш. Вялікі вопыт. Т. (8-029) 2775694.*

• Майстар-еўрааддзелачнік зробіць кваліфікаваны рамонт ад дробнага да "пад ключ". Т. (8-044) 5724916.*

# Этнаграфічны клуб "КОЛА" прывёў казу ў дзіцячы садок



Аматары беларускай народнай культуры (злева направа) Аляксандра Парфянюк (Каза), Ганна Шакель і Канстанцыя Герасіменка прымералі вобразы калядоўшчыкаў. Фота забяспечане Канстанцыяй Герасіменкай.

МАЛАДЗЕЧНА

Каляда пашырае межы: 30 снежня аматары беларускай народнай культуры правялі абрад калядавання ў дзіцячым садку №8.

У ролі Казы была **Аляксандра Парфянюк**, яе вяла Баба **Настасся Шпілеўская**, каляднай зоркай шлях асвятляў **Дзяніс Краўчонак**, а **Алена Мятлюк**, **Ганна Шакель** і **Канстанцыя Герасіменка** прытанцоўвалі пад гармонік **Кліма Бельскага**.

Ціхая гадзіна. Дзеткі спяць. Выхавальнікі ў гонар свята спакойна частуюцца мандарынкамі. А тут з парога: "Каляда, бегла Колядка пэшком, пэшком, гэй, Каляда!".

Атрымаўся сапраўдны сюрпрыз. Казу разумную, што шчасце ў наступным годзе прыносіць, паказалі, паспехаў і дабрабыту на год наперад пакінулі. Стамілася Каза, праўда, павалілася. Але яе скоранька мандарынкамі на ногі зноў паставілі.

Разнастаіць будні супрацоўнікаў "колаўцам", напраўду, удалося. Навучылі танцавалаць кракавяк і лявоніху. З непрывычкі новыя танцоры хутка прасілі гармонік спыніцца, але галаве ногі не падманеш: тыя ўсё яшчэ з ахвотай танцавалі!

Пасля пачалася сапраўдная калядная варажба. Незамужнія дзяўчаты з заплюшчанымі вачыма выцягвалі жменьку сена: калі кольказсць засушаных травінак цотная – сёлета будзе вяселле, калі няцотная – яшчэ гадок трэба пагуляць. Маладая выхавальніца Паліна налічыла іх ажно 18, таму калядоўшчыкі павіншавалі дзяўчыну песняй:

*А ў лузе, лузе, на піравозе,*
*Красная Полечка піравоз дзіржала,*
*Піравоз дзіржала піравозіла*
*Святы вечар добрым людзям...*

Яшчэ колькі песень на развітанне – і калядны настрой тым, хто займаецца маладзечанскімі дзеткамі, забяспечаны!

**P.S.** Сон ні аднаго дзіцяці не пацярпеў.

**Ганна ШАКЕЛЬ.**



# Як памяняць балон?

УП «МИНСКОБЛГАЗ» Молодечно МЕЖРАЙ ГАЗ

**Паважаемыя абаненты філіяла ВУ "Маладзечнагаз"!**

**Нагадваем вам, што дастаўка 50-літровых балонаў са звадкаваным вугляродным газам (далей ЗВГ) ажыццяўляецца насельніцтву, у якога індывідуальныя балонныя ўстаноўкі (далей ІБУ) зарэгістраваныя ў газазабеспячэнскай арганізацыі.**

Кіруючыся пунтам 11.8 часткі 2 Правілаў карыстання газам у быце, зацверджаным Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь 24 снежня 2013 №1136, не дапускаецца дастаўка 50-літровых балонаў са ЗВГ работнікамі газазабеспячэнскіх арганізацый без выканання работ па падключэнні і пламбіраванні дастаўленых балонаў.

Акрамя гэтага, паведамляем, што магчымая рэалізацыя звадкаванага вуглеводароднага газу ў 50-літровых балонах праз пункты замены балонаў спажыўцам газу, якія пажадалі самастойна замяніць балоны.

**Для гэтага ў пункце замены балонаў спажывец газу абавязаны:**

1. Прад'явіць пасведчанне спажыўца газу на права допуску да самастойнай замены балона (форма 7-ГБУ).

2. Прад'явіць дакумент, які пацвярджае асобу.

3. Прад'явіць тэхнічны пашпарт на індывідуальную балонную ўстаноўку (ІБУ) (форма 4-ГБУ) для вядзення нумарнога ўліку балонаў.

4. Паведаміць прысвоены асабовы рахунак спажыўца газу.

5. Прад'явіць пусты балон у спраўным стане з нумарам, які ўказаны ў тэхнічным пашпарце.

6. Распісацца ў журнале рэалізацыі балонаў са ЗВГ.

7. Аплаціць кошт газу ў балоне шляхам унясення грашовых сродкаў у касу і атрымаць касавы чэк.

**Замена балона не адбываецца:**

- пры несупадзенні нумара балона з нумарам у ведамасці папярэдняй дастаўкі;

- пры адсутнасці вышэйпералічаных дакументаў.

**Паважаныя абаненты, не падвяргайце сваё жыццё небяспецы.**

Філіял ВУ "Маладзечнагаз" УНП 100008077





Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Рома (сядзіць на каленях у Снягурачкі) і яго сястрычкі вельмі чакалі навагодніх гасцей.

# Мы змаглі падарыць дзецям кавалачак казкі

## Завяршылася дабрачынная акцыя ў дзіцячай паліклініцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Цацкі, гульні, канцылярскія прылады, цукеркі атрымалі сёлета ад Дзеда Мароза і Снягурачкі дзеці-інваліды з Маладзечна.**

Гэта першы досвед правядзення дабрачынных акцый для супрацоўнікаў дзіцячай паліклінікі горада. А ідэя прыйшла медсястры **Наталлі Струкавай.**

Яшчэ ў пачатку снежня яна прапанавала супрацоўнікам паліклінікі сабраць грошы для таго, каб купіць падарункі дзецям-інвалідам горада. Калегі акцыю падтрымалі. На сабраныя грошы набылі навагоднія каробкі цукерак.

### Наталля Струкава: знаёмыя неслі падарункі адразу мне дамоў

Пасля з дапамогай мясцовых газет і інтэрнэт-сайтаў пра дабрачынную навагоднюю акцыю даведаліся жыхары горада. Амаль увесь снежань неабыякавыя гараджане неслі ў паліклініку цацкі, канцылярыю, наборы для дзіцячай творчасці, ласункі.

– Многія знаёмыя з вуліцы Крынічнай, дзе я жыву, неслі падарункі для дзяцей адразу мне дадому. Маўляў, каб спецыяльна не ісці ў паліклініку, – падзялілася Наталля.

Яшчэ медсястра распавяла, што бацькі дзяцей-інвалідаў, якім тэлефанавалі з паліклінікі і паведамлялі пра акцыю, вельмі здзіўляліся. Па іх словах, з такім мерапрыемствам яны сутыкнуліся першы раз.

Акцыю падтрымала **Іна Саўчык**, галоўны доктар дзіцячай паліклінікі:

– Я на працягу ўсяго часу назірала, як у кабінет прыходзяць людзі з падарункамі. І была прыемна здзіўленая. Дзякуючы удзельнікам акцыі мы зможам падарыць кавалачак свята дзецям, – падзялілася доктар.

Па словах жанчыны, яна не ўяўляла, што ў гэтым тлумным і часта злосным свеце ёсць столькі добрых людзей. Галоўны доктар спадзяецца, што такі пераднавагодні збор падарункаў стане традыцыйным.

А яшчэ Іну Саўчык уразілі Дзед Мароз і Снягурачка, якія бясплатна, на сваім транспарце, у такі напужаны пераднавагодні час, пагадзіліся дапамагчы паліклініцы і павіншаваць дзяцей з Новым годам.

### Уладзімір Высоцкі для Дзеда Мароза

Ролю галоўных навагодніх персанажаў выканалі маладзечанцы **Дзмітры Рудык** і **Вольга Жарская**. 28 снежня яны прыехалі да дзесяці дзяцей-інвалідаў з Маладзечна, уручылі падарункі і павіншавалі іх.

Снягурачка Вольга прызналася, што крыху хвалявалася перад мерапрыемствам. Па яе словах, у дуэце з Дзмірыем яны больш працуюць на дарослых карпаратывах. А тут дзеці, ды яшчэ не зусім звычайныя.

Аднак Вольга спадзявалася на багаты досвед партнёра. У творчым багажы Дзмітрыя правядзенне святаў, шмат выступленняў перад дзецьмі і дабрачынны канцэрт. Мы рыхтаваліся да сустрэчы, расказала Вольга. Аднак з Дзімам колькі ні рыхтуйся, у яго ўсё роўна будзе імправізацыя.

– А я вось думаў: снежань заканчваецца, – дзеліцца думкамі Дзмітры Рудык, – а мы ў гэтым месяцы ніякай добрай справы не зрабілі. А тут сустрэў знаёмую медсястру Наталлю Струкаву і з радасцю пагадзіўся паўдзельнічаць у акцыі.

У кожнай кватэры дзеці дэманстравалі навагоднім гасцям свае таленты: чыталі вершы, паказвалі ўласныя малюнкі, ігралі на музычных інструментах. А песні гучалі не толькі навагоднія. У хлопчыка **Дамініка** спяваць пра ёлачку не вельмі атрымлівалася. Затое ён падарыў уражанаму Дзеду Марозу песню **Уладзіміра Высоцкага.**

Некаторыя дзяліліся з гасцямі сваёй радасцю. Бабуля чатырохгадовай дзяўчынкі **Таццяны** расказала, што ўнучка паўтара года таму пачала чуць.

А яшчэ дзеці, бацькі, бабулі і дзядулі з радасцю хапаліся за святочны посах. І, напэўна, усе верылі ў тое, што ён выканае самыя запаветныя жаданні. Ва ўсялякім разе, Снягурачка ўсіх упэўнівала, што посах чароўны.

Па словах Наталлі Струкавай, арганізатары акцыі не чакалі, што адгукнецца столькі людзей. Таму некаторыя падарункі, прынесеныя маладзечанцамі, 27 снежня перадалі ў сацыяльна-педагагічны цэнтр у Маладзечне.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Навагодні карнавал для тых, каму за... упершыню правялі ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Танцы, гульні, песні, Дзед Мароз са Снягурачкай і карнавальныя касцюмы... Так у Доме культуры прайшло свята "З надыходзячым годам Пеўня".**

Не, гэта быў не навагодні ранішнік для дзяцей. Упершыню ў Вілейцы зладзілі навагодні карнавал для тых, каму за...

Па словах **Жанны Барткевіч**, кіраўніка клуба "Ветэран" пры Доме культуры, арганізаваць такое свята прапанавалі супрацоўнікі тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання. Тут таксама ёсць клуб для сталых людзей пад назвай "Залаты ўзрост". Далучыўся і Савет ветэранаў на чале з **Ганнай Шэпелевай**.

Сумеснымі сіламі трох вілейскіх арганізацый у горадзе 28 снежня зладзілі навагодні баль. На свята маглі трапіць усе, хто пажадае.

Галоўная ўмова – наяўнасць карнавальнага касцюма, маскі або нейкага святочнага вобраза. Уваход на баль быў вольным для ўсіх.

Супрацоўнікі Дома культуры выконвалі ролі галоўных святочных персанажаў – **Дзеда Мароза**, **Снягурачкі**, **Пеўня**. Рэжысёрам стала **Алена Холадава**, яна ж была і вядучай. А музычнае афармленне забяспечылі **Сяргей Рудніцкі**, нязменны музыкант усіх мерапрыемстваў клуба "Ветэран", і артысты Дома культуры.

У горадзе мерапрыемства шырока анансавалі, таму наведнікаў было шмат. Людзі прыходзілі ў касцюмах Навагодняй Ёлкі, Цыганак, Каўбояў. Асабліва арганізатарам свята запомнілася жанчына ў масцы і парыку часоў Людовіка Чатырнаццатага.

На свяце былі не толькі сябры клубаў "Ветэран" і "Залаты ўзрост", але і іншыя гараджане. Хтосьці актыўна ўдзельнічаў ва ўсіх конкурсах, а нехта проста быў гледачом. Усё ж першы раз такое свята ў горадзе праводзілі, падзялілася Жанна Барткевіч.

Кожны, хто танцаваў, спяваў, удзельнічаў у конкурсах, атрымаў у падарунак бутэльку сідару.

– Шампанскае для нас – моцны напой, а вось сідар – у самы раз, – лічыць Жанна Барткевіч.

Па яе словах, падарункам удзельнікі радаваліся, быццам дзеці.

Падчас балю быў фуршэт з мандарынамі, цукеркамі, печывам.

Па яе словах, на наступны год таксама плануюць праводзіць баль. Магчыма, у зале паставяць столікі і зробяць платны ўваход.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

НАВІНЫ

## Анатоля Лапо прызначылі старшынёй Дзяржпагранкамітэта

Такое рашэнне напярэдадні Новага год прыняў Прэзідэнт Беларусі. Раней на гэтай пасадзе працаваў **Леанід Мальцаў**.

Анатоль Лапо нарадзіўся ў 1963 годзе. Паходзіць з Магілёўшчыны. Скончыў адразу ваенна-палітычнае вучылішча, а пасля Акадэмію федэральнай пагранічнай службы ў Расіі.

У Смаргоні – ад 1992 года. Тут служыў на розных пасадах у Смаргонскім памежным атрадзе. Ад 2004 года быў начальнікам гэтага атрада.

У 2008 годзе яго прызначылі намеснікам начальніка галоўнага апаратыўнага ўпраўлення Дзяржпагранкамітэта Беларусі.

Ад 2014 года працаваў намеснікам старшыні Дзяржпагранкамітэта.

Генерал-маёр, мае шэраг дзяржаўных узнагарод.

**Паводле БелТА.**

## Нарачанскія матывы на карцінах

МЯДЗЕЛ

У Мядзельскім музеі народнай славы да канца студзеня праходзіць выстава "Нарачанскія матывы ў творчасці беларускіх мастакоў". На ёй прадстаўлены жывапісныя творы з фондаў музея, на якіх адлюстраваны пейзажы Нарачанскага краю. Асаблівае месца на выставе займаюць акварэлі земляка народнага мастака Беларусі **Васіля Шаранговіча**. Майстар адлюстраваў у сваіх працах маляўнічыя месцы Мядзельшчыны.

**Паводле сайта Мядзельскага райвыканкама.**

# Місія 2017: дачакацца Лізу і рассмяшыць Несмяяну

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанцы сустракалі Новы 2017 год з песнямі, танцамі, забавамі, але без феерверку.**

Каля гадзіны ночы на Цэнтральнай плошчы горада было амаль бязлюдна.

Але паступова на гукі навагодніх песень, якія даносіліся з дынамікаў на плошчы, сталі збірацца сем'і з малымі дзеткамі, шумныя кампаніі падлеткаў, пары ва ўзросце. І ў гадзіну ночы спявак **Павел Данілаў** выйшаў на сцэну і першым павіншаваў маладзечанцаў з Новым годам.

І вось тут адбылася першая таямніца Новага года.

Непадалёк ад плошчы з'явіліся вялізныя літары са снегу: "ЛІЗА".

Чаму Ліза? Чаму не Снягурачка? Чаму не з Новым годам?

Адказаў на гэта пытанне хлопец **Віктар**, які сачыў за тым, каб літары не разбурылі.

– Шкада, што так мала снега. А то было б слова "Лізавета", – расказаў Віктар.

Ён спецыяльна прыйшоў на плошчу загадзя, каб зрабіць сюрпрыз дзяўчыне.

– Яна не мая дзяўчына, проста дзяўчынка, якая мне падабаецца. Захацелася зрабіць ёй прыемнае. Але вось ці прыйдзе яна, я не ведаю.

А ў гэты час на сцэну выйшлі артысты Палаца культуры, каб рассмяшыць царэўну Несмяяну. Забаўляльная праграма з песнямі, жартамі і конкурсамі для тых, хто не пажадаў сустракаць Новы год перад тэлевізарам, праходзіла весела, шумна.

Трэба сказаць, што перад уваходам на плошчу дзяжурылі ахоўнікі парадку, так што ў месцы святкавання не было шанцу ні ў петардаў, ні ў іншых забароненых рэчаў. Маладзечанцы танцавалі і віншавалі адзін аднаго са святам.

Васьмігадовы **Саша**, што прыйшоў на свята разам з бацькам **Яўгенам**, павіншаваў усіх гараджан са Святам і пажадаў верыць у цуды.

Калі я ўжо ішла дамоў, заўважыла, што Віктар па-ранейшаму чакаў Лізавету, а са сцэны артысты ўсё спрабавалі рассмяшыць Несмяяну.

Паважаныя чытачы, калі вам вядома, ці прыйшла дзяўчынка і ці рассмяшылі царэўну, дайце ведаць пра гэта.

Цікава ж...

**Наталля ТУР. Фота аўтара.**



Кампанія маладзечанцаў прыйшла на Цэнтральную плошчу, каб весела адзначыць Новы год і каб трапіць у рэпартаж "Рэгіянальнай газеты".



Перадаць прывітанне і сфатаграфавацца каля галоўнай ялінкі. Што яшчэ трэба ў навагоднюю ноч?



Тыя, хто вырашыў адзначыць Новы год у горадзе, вымушаныя былі смяшыць царэўну Несмяяну.



Маленькія і вялікія Дзяды Марозы зычылі ўсім не губляць веры ў цуды.




Адна з загадак навагодняй ночы: ці ўбачыла невядомая Ліза свой падарунак?



НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Хаценчыцы і наваколле ў людскіх лёсах. Вёска Дварэц

**Другая частка гісторыі майго краю таксама напісаная з расповедаў сведак тых далёкіх і трагічных часоў.**

Вёска Дварэц знаходзіцца ў вярсце на захад ад Мардасоў. У снежні 2012 года пайшла з жыцця самая старэйшая жыхарка гэтай вёсачкі **Соф'я Мікалаеўна Дзік (Кратовіч)**. Незадоўга да смерці я наведаў яе ў спадзяванні даведацца пра штонебудзь з мінулага. Бабе Зоньцы (так яе звалі ў вёсцы) не вельмі падабалася распавядаць пра сваё амаль стогадовае жыццё. Але даведаўшыся адкуль я і хто мой тата, яна нават з задавальненнем пагадзілася падзяліцца сваімі ўспамінамі пра далёкае мінулае. Ну, а чаму – даведаемся пазней.

### Баба Зонька

Нарадзілася баба Зонька ў 1916 годзе ў вёсцы Дварэц Хаценчыцкай воласці. У гэтай вёсачцы яна так і пражыла ўсё сваё доўгае, поўнае трагізму, апаленае вайной жыццё. Гэта калі не ўлічваць добраахвотна-прымусовую паездку на самалётабудаўнічы завод за Урал у 1944 годзе.

Пры паляках жылося не ўсім аднолькава. Хто не баяўся працы і паставіў мэту перад сабой, меў хлеб і да хлеба. Але частыя розныя хваробы касілі людзей без разбору, ад старога да малога. Больш распаўсюджанай хваробай быў тыф.

Зонька расла моцнай, рухавай і працавітай дзяўчынкай. Скончыла чатыры класы польскай школы (навучанне было бясплатнае для ўсіх слаёў насельніцтва, незалежна ад веравызнання).

Сям'я Мікалая Кратовіча складалася з васьмі душ і жыла за кошт сваёй гаспадаркі. Яны мелі нядрэнную хату з усімі гаспадарчымі пабудовамі і чатыры з паловай гектары зямлі. Для апрацоўкі яе быў свой конь. У гаспадарцы была таксама свая малатарня і шмат іншых сельскагаспадарчых прылад, кросны. Мелася і нямала жывёлы: дзве каровы, авечкі, свойская птушка. Гадавалі свіней і для сябе, і на здачу ў Хаценчыцы на кілбасную пані Высоцкай-Вайткевіч. За што тая плаціла злотымі.

У пані Высоцкай-Вайткевіч можна было яшчэ і падзарабіць на той самай кілбаснай альбо ў аранжарэі. Зонька са сваёй сястрой часта скарыстоўвалі такую магчымасць, што дазваляла ім папоўніць сямейны бюджэт.

Кожны год сям'я адбывала, як і ўсе, хто меў уласнага каня, панскую падзёншчыну (шарварку, рамонт і будоўлю дарог па воласці). Кіраваў гэтым валасны інжынер-будаўнік, наш знакаміты зямляк Пётра Сыч.

### Кавалер Зонькі Ляксандра

Моладзі ў вёсцы было шмат. У вольныя часы па вечарах спраўлялі танцы, на якія заглядвалі кавалеры і з іншых суседніх вёсак. Быў і ў Зонькі кавалер з памежных Чарвякоў (цяпер Сакалоўка) Аляксандар Радкевіч (Ляксандра). Ён хоць і быў маладым, але ў акрузе пра яго гаварылі як пра добрага сталяра.

Пазнаёміліся яны ў 1938 годзе, калі Ляксандра штосьці рабіў у яе вёсцы. Слова за слова, так і завязалася сяброўства. Але вясной 1939-га Зоньчын кавалер быў прызваны на службу ў польскае войска. А ўжо ў верасні таго ж года польская ўлада змянілася на бальшавіцкую. Гэта змена ў вёсцы адбылася неяк ціха, без ніякіх стрэлаў, гвалту ды насілля, што нельга казаць пра суседнія вёскі.

### Прыход савецкіх вайскоўцаў

Савецка-польская мяжа пралягала ў вярсце на ўсход ад Дварца. Яе польскія жаўнеры пакінулі яшчэ надвячоркам 16 верасня. А на досвітку наступнага дня з боку панышоўскай польскай стражніцы, у накірунку Хаценчыцаў, паходным маршам пацягнуліся шарэнгі савецкіх вайскоўцаў. Калона рухалася паміж Дварцоў і Рабцамі. Усе жыхары гэтых вёсак высыпалі са сваіх хат да той дарогі, каб падзівіцца на войска.

Без пагонаў ды з анучамі на нагах замест ботаў, бальшавіцкае войска мела выгляд хутчэй арыштантаў, чым вайскоўцаў. Жыхары спачатку з усмешкай назіралі за вайсковай калонай. А пасля таго, як у аднаго з чырвонаармейцаў разматалася ануча на назе, а вайсковец, які ішоў за ім, наступіў на яе, з-за чаго спрацаваў прынцып даміно, бо ў адну кучу адразу заваліліся чалавек сем, устрымацца ад смеху было ўжо немагчыма. Калона спынілася, а на ўсё наваколле разляцеўся рогат і салдат, і жыхароў. Але прыгоды на гэтым не скончыліся.



Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

Дзік (Кратовіч) Соф'я Мікалаеўна, карэнная жыхарка вёскі Дварэц.

Калі да іх вярхом на кані пад'ехаў камандзір, чырвонаармейцы з "кучы-мала" пачалі хуценька падымацца. І ў гэты момант пры спешцы ў аднаго з вайскоўцаў выпадкова стрэліла трохлінейка і прама пад ногі жарабцу. Той ад перапалоху падняўся на дыбы і скінуў верхавога. У нейкі момант стала ціха, а пасля, як усе ўбачылі, што ніхто не пацярпеў, рогат падняўся яшчэ мацней.

Незапланаваны вайсковы прывал абарваўся ў адну хвіліну пасля таго, як у гутарку да вайскоўцаў пачалі ўмешвацца мясцовыя жыхары на польскай мове. Для чырвонаармейцаў гэта быў гром з яснага неба. Смех раптам сціх. Твары ва ўсіх сталі сур'ёзнымі. Камандзір, гучна мацюкнуўшыся, аддаў загад станавіцца ў калону і закамандаваў: "Ш-а-а-гам марш!"

### Жыццё пры новай уладзе

Па прыходзе бальшавікоў і пакуль іх не змянілі немцы, Дварэц жыў спакойна. У калгасы не зганялі, раскулачванняў не было, рэпрэсій таксама. Ажно да самай вайны ў вёску ніхто не заглядаў. Нават помнік пану Пілсудскаму, які стаяў пасярод вёскі, не закранулі ажно да пасляваеннага часу.

Хаценчыцкі пан Вайткевіч дзесьці знік, ніхто не ведаў, дзе ён падзеўся. А жонка яго пані Высоцкая-Вайткевіч і іх агароднік Раноўскі (Жырыноўскі) засталіся яшчэ тут доўгі час. Працавала панская кілбасная і аранжарэя.

Але ўжо перад самай вайной гаспадарка пачала развальвацца, і пані Высоцкая-Вайткевіч з'ехала дзесьці пад Варшаву. А агароднік, на сваю бяду, застаўся жыць у яе маёнтку і ўжо праз год пасля пачатку вайны быў расстраляны партызанамі пад Дварцом, быццам бы за сувязь з немцамі.

Вайна Гітлера і Сталіна супраць панскай Польшчы скончылася ў лічаныя месяцы. Дварэц тым часам жыў сваімі звычайнымі клопатамі.

### Ляксандра – бацька аўтара гэтага артыкула

Ужо ў лістападзе дадому пачалі вяртацца жаўнеры-беларусы з разбітага ўшчэнт польскага войска. Вярнуўся ў свае Чарвякі дзесьці з-пад Беластока і сябра Зонькі Аляксандр Радкевіч. Вярнуўшыся ўзімку 1940 года з вайны, Ляксандра пачаў усё часцей і часцей наведвацца ў Дварэц да сваёй сяброўкі. Сустрэчы ў маладых пачалі перарастаць у моцнае каханне. Але лёсам ім было наканавана зноў развітацца.

Аляксандра Радкевіча новая ўлада паставіла перад выбарам: альбо ГУЛАГ, альбо добраахвотнікам у Чырвоную Армію. Аляксандр выбраў апошняе. 15 верасня 1940 года Ільянскім райваенкаматам ён быў прызваны на вайсковую службу і накіраваны на Далёкі Усход у сапёрна-будаўнічую часць. Пасля вайна. Эшалон, які вёз Аляксандра на абарону Смаленска, пад Ярцавым разбамбілі немцы. Раненне. Год шпіталя.

У 1943 годзе, як былому жаўнеру польскага войска, а значыць, польскаму шпіёну артыкул №58 адмераў восем год ГУЛАГа. Спрабаваў патрапіць у армію Андэрса, але нацыянальнасць "беларус" не дазволіла гэтай мэты дасягнуць. Выйшаў на волю ў 1951 годзе, калі яго дома ўжо ніхто не чакаў, у тым ліку і Зонька.

Не дачакаўшыся толькі пару год без вестак зніклага свайго каханага, яна выйшла замуж за мясцовага хлопца. І Аляксандр з'ехаў у Літву. Там сустрэў на 12 год маладзейшую за сябе дзяўчыну са Смаленшчыны. У 1953-м пажаніліся, а ў 1954 годзе нарадзілася ў іх дачушка Галя. А праз тры гады, у 1957 годзе, Бог ім паслаў сына, аўтара вось гэтых радкоў. А пасля яшчэ двух хлопчыкаў і дзяўчынку.

Вось такая цікавая гісторыя, якая дапаўняе і мой сямейны гістарычны архіў, у якую я не зусім верыў, слухаючы старую. Але пацвярджэнне Зоніным расповедам з'явіліся зусім нечакана і выпадкова ў 2015 годзе. Падчас рамонту бацькоўскай хаты, за абразом пад шпалерамі, быў знойдзены фотаздымак майго таты ў мундзіры жаўнера польскага войска. Пры жыцці тата пра службу ў польскім войску нічога не расказваў. За выключэннем не вельмі значных выказванняў, на падпітку. Кожны раз толькі казаў, што калі менш ведаеш – мацней спіш.

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

**Працяг будзе.**

КАЛЯНДАР

### 6 СТУДЗЕНЯ

**125 гадоў** таму назад (1892) нарадзіўся Адам Станкевіч (вёска Арляняты, цяпер Смаргонскі раён), рымска-каталіцкі святар, грамадска-культурны дзеяч, асветнік, культуролаг, літаратуразнавец, выдавец, публіцыст.

**105 гадоў** з дня нараджэння Льва Абеліёвіча (1912 – 1985), беларускага кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Стварыў арыгінальныя рамансы на вершы Багдановіча, Коласа, Танка, інш.

### 7 СТУДЗЕНЯ

**100 гадоў** з дня нараджэння (1917) Святаслава Коўша (мястэчка Ілья, цяпер Вілейскі раён), праваслаўнага святара, рэлігійнага і грамадска-культурнага дзеяча беларускага замежжа, пісьменніка, рэдактара, выдаўца, публіцыста. Скончыў Віленскую беларускую гімназію і факультэт права ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні. У гады Другой сусветнай вайны звязаны з беларускімі культурна-асветнымі і палітычнымі арганізацыямі. Ад 1944 года – у эміграцыі. Жыў у Германіі. Працаваў у Беларускай гімназіі імя Багдановіча. Выехаў у ЗША. Аўтар кнігі балад і прозы "Русалчына балада", аповесці "На дарогах вайны", інш. Памёр 5 лістапада 1997 года, пахаваны на беларускіх праваслаўных могілках у Саўт-Рыверы (ЗША).

### 9 СТУДЗЕНЯ

**120 гадоў** з дня нараджэння Васіля Шашалевіча (1897 – 1941), беларускага драматурга, тэатральнага дзеяча. Вязень ГУЛАГу. Малодшы брат пісьменніка Андрэя Мрыя. Актыўную літаратурную дзейнасць пачаў у сярэдзіне 1920-х апавяданнямі і драматычнымі творамі. Аўтар п'ес "Апраметная" (другая назва "Зруйнаваная цэмра"), "Змрок", "Воўчыя вочы", "Рой", "Сімфонія гневу" (былі пастаўлены БДТ-1 у 1927 – 1935 гадах).

### 12 СТУДЗЕНЯ

**100 гадоў** з дня нараджэння Міхася Калачынскага (Міхаіла Іванавіча) (1917 – 1990), беларускага паэта, заслужанага работніка культуры Беларусі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны (1939-40), у Вялікую Айчынную вайну – армейскі журналіст на Закаўказскім, Стэпавым, 2-м і 3-м Украінскіх франтах. У 1960-78 – галоўны рэдактар часопіса "Беларусь". У складзе дэлегацыі БССР у 1971-м удзельнічаў у рабоце XXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

ХОЧАЦЕ – ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ – НЕ

# У выйгрышы застануцца тыя, хто прывык дзейнічаць, а не разважаць

**Чалавек можа і павінны ўплываць на свой лёс. Разлічвайце на сябе і ўласныя магчымасці, і тады вам бяда будзе не бяда.**



**АВЕН.** Вы ў 2017 годзе будзеце поўныя непрадказальнасці. Перад вамі адкрыецца мноства цудоўных перспектыў, ад якіх вы не зможаце адмовіцца. Кар'ерная лесвіца падыме вас, такіх працавітых, да вышынь. Дзейнічайце рашуча, і тады любое пачынанне закончыцца поспехам. Пастарайцеся заўсёды быць напагатове, бо ўдача любіць уважлівых і лоўкіх. Калі вы пасябруеце з ёй, то ніякія перашкоды не стануць у вас на шляху. У пытаннях грашовых прытрымлівайцеся тактыкі "без даўгоў і займаў". Эмацыйны бок наўпрост будзе ўплываць на фізічнае здароўе. Паберажыцеся ад нервовых перагрузак і стрэсаў. Каб арганізм нечакана не даў збояў – часцей адпачывайце і дасканала сачыце за харчаваннем.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас у 2017-м чакаюць кардынальныя перамены ва ўласным жыцці. Тыя, хто да сёння не знайшоў другую палавінку, абавязкова сустрэнуць дарагога і каханага чалавека, які застанецца з імі назаўсёды. А вось сямейныя павінны ўважліва адносіцца да свайго спадарожніка жыцця, а то і да разводу недалёка. У прафесійнай дзейнасці ўсё складвaецца самым найлепшым чынам – вас чакае павышэнне ці змена пасады. Будзе ў сярэдзіне года нейкі перыяд, калі жыццё стане нагадваць арэлі – то ўніз, то ўверх, але ненадоўга. Каб са здароўем было ўсё ў парадку, больш уважліва аднясіцеся да свайго псіхічнага і псіхалагічнага здароўя. Тым з вас, хто пакутуе ад лішняй вагі, настаў час заняцца фігурай.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вы, такія амбіцыйныя, у новым годзе будзеце дзейнічаць рашуча і ні перад чым не спыніцеся. Кожны ваш учынак будзе правільны. У кар'еры чакаюцца значныя крокі наперад. Калі ў вашых планах ужо даўно спее рашэнне памяняць месца працы, разарваць адносіны з некаторымі людзьмі ці проста з'ехаць ненадоўга з горада, то смела бярыцеся за гэту задуму. Толькі не ўвязвайцеся ў ніякія авантуры і сумнiўныя мерапрыемствы, інакш рызыкуеце патрапіць ў складаную сітуацыю. Каб быць здаровым, трэба дастатковую ўвагу ўдзяляць касцявой сістэме і суставам, а яшчэ неабходна заняцца фізкультурай. Прыйшоў час і вам спрычыніцца да здаровага ладу жыцця.



**РАК.** Вы ў 2017 годзе літаральна расцвіцеце на вачах і будзеце купацца ў промнях любові яркага Пеўня. На працы будуць харошыя дні, яны прынясуць дабрабыт, вас не будуць даймаць пытанні матэрыяльнага плана. Важную інфармацыю трымайце пры сабе і не распаўсюджвайцеся пра свае планы і намеры. Чужыя праблемы не прымайце блізка да сэрца, а таксама не зацыклівайцеся на негатыве. Тады і са здароўем будзе поўны парадак, бо да яго трэба ставіцца уважліва. А яшчэ вам трэба больш адпачываць, далучацца да прыгожага: хадзіць на выставы, у тэатры, музеі. Трэба больш разнастаіць сваё жыццё – работа і дом вам зусім не падыходзяць.



**ЛЕЎ.** Певень не вельмі любіць сямейства кашачых, але да Львоў ён адносіцца з павагай. Таму ўсё, пра што вы так даўно марылі, зможа нарэшце ажыццявіцца. Жанчыны ж увогуле будуць атрымоўваць толькі ўсмешкі Фартуны. Удача не адвернецца ад вас ні на імгненне. У 2017 годзе ўсім падвернецца не адна цудоўная магчымасць для творчасці. Адкіньце ў бок царскую львіную ляноту і, закасаўшы рукавы, прымайцеся за работу. Але, прападаючы на рабоце, пра сям'ю не забывайце. Ільвы – знакі сямейныя, і ўсяго сябе пасвячаюць жонцы і дзецям. Свабодныя ж могуць выбраць любую "здабычу". А каб быць здаровым, умацоўвайце імунітэт, сачыце за харчаваннем.



**ДЗЕВА.** Вы з самых першых дзён адчуеце магутны прыліў сіл і энергіі. Гэты час стане ідэальным перыядам для змены прыярытэтаў і жыццёвых пазіцый. Можа, вы знойдзеце памылкі ў сваіх паводзінах і захочаце іх выправіць – каб стаць лепшымі. Гэта жаданне дазволіць вам палепшыць свае прафесійныя, грамадскія і чалавечыя якасці. Ва ўласным жыцці ўсё будзе эмацыйна і бурна. Магчыма, гэты факт сыграе з вамі злы жарт, і адносіны, якія склаліся даўно, разарвуцца. Са здароўем усё будзе добра толькі ў тым выпадку, калі вы самі не будзеце па-наплявацельску адносіцца да свайго арганізма. Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць падтрыманню імуннай сістэмы ў баявым стане.



**ШАЛІ.** Год 2017 будзе цудоўны ва ўсіх планах. Як ва ўласным жыцці, так і на прафесійнай ніве будзе поўная ідылія. Усё, што трэба, – гэта скласці дакладны план і няўхільна рухацца да сваёй мэты. І ніякай нерашучасці. Нават памылкі не змогуць перашкодзіць вашаму поспеху. Прыклаўшы максімум намаганняў, вы даб'яцеся важкіх перамен і ў матэрыяльным стане, бо работа будзе добра аплачвацца. Шмат жанчын даведаецца пра радасную вестку аб зараджэнні новага жыцця. Адзінокія сустрэць свой лёс у іншай краіне. Калі вы прадумаеце работу такім чынам, каб выкраіць час на рэгулярны адпачынак, то са здароўем таксама ўсё будзе ў парадку. Асабліва беражыце вочы.



**СКАРПІЁН.** 2017 год будзе роўны і добры. Вы зможаце рэалізаваць самыя неардынарныя ідэі, якія даўно ўжо затаіліся ў глыбіні душы. Год проста ідэальна падыходзіць для перамены месца жыхарства. І гэта можа быць не толькі горад, але нават і краіна. Усялякія перамены зробяць вас шчаслівымі. Певень абяцае суправаджаць ва ўсіх важных справах і дарыць такое неабходнае вязенне. Асобую ўвагу трэба ўдзяліць другой палавінцы, каб не адбылося "бунта на караблі". Трымайце "вушкі на макушцы". Што да здароўя, то трэба ўсім вам паберагчыся, прымаць больш вітамінаў і загартоўваць свой арганізм. А каб не было праблем са страўнікам – варта перагледзець рэжым і якасць харчавання.



**СТРАЛЕЦ.** З надыходам 2017 года ў вас прачнецца ўпэўненасць і імкненне змяніць сваё жыццё. Будзе дадзена мноства магчымасцяў, ухапіўшыся за якія, вы зможаце ўвасобіць даўно намечаныя ідэі ў жыццё. Вы навучыцеся радавацца дробным удачам і простым рэчам. Шмат хто, праяўляючы максімальную настойлівасць, зможа заняць кіруючыя пасады, якія прынясуць як матэрыяльныя выгоды, так і задавальненні. Праўда, вам трэба адмовіцца ад далёкіх падарожжаў, таму што яны не прынясуць чаканага выніку. Нельга легкадумна адносіцца да грошай. Вам трэба ўсур'ёз заняцца сваім здароўем, каб яно катастрафічна не пагаршалася – вегета-сасудзістая дыстанія, мігрэнь, гіпертанія.



**КАЗЯРОГ.** Год для вас будзе няпросты, але ў ім вы знойдзеце станоўчыя бакі. Галоўнае, вам удасца саўладаць з сабой і пазнаць многія ўласныя тайны, разабрацца ў сваіх жаданнях і імкненнях. Вы навучыцеся дасягаць мэт і, вядома, іх дакладна вызначаць. Вы будзеце не толькі дзейнічаць, але і дазволіце сабе ісці па шляху, прадвызначанаму лёсам, жыць у гармоніі не толькі з сабой, але і са светам. А гэта ўжо прадракае вялікі поспех. Жанчынам трэба не зацыклівацца на быце. У плане здароўя будзе ўсё добра. Не трэба толькі пакідаць без увагі хранічныя захворванні, каб не атрымаць абвастрэнні. А яшчэ не забывайце пра вітаміны і загартоўванне.



**ВАДАЛЕЙ.** Год 2017 прынясе для вас шмат адкрыццяў. Перш за ўсё, вы зразумееце, што здольныя адчуваць такія эмоцыі, аб якіх раней і не падазравалі. Адбудзецца пераацэнка каштоўнасцяў і прыярытэтаў. Давярайце сваёй інтуіцыі, яна не падвядзе. Верце ў сябе. Слухайце сваё сэрца і ідзіце туды, куды яно вас кліча. І не прыслухоўвайцеся вы да меркавання навакольных, бо яны не заўсёды маюць рацыю, а іх прапановы могуць негатыўна адбіцца на вашым жыцці. Певень вам шчодра адорыць за пакладзістасць і працавітасць. Са здароўем складанасці не будзе, хіба толькі вы не пераберацe з алкаголем ці забароненымі прэпаратамі.



**РЫБЫ.** Без энергічнасці і харызматычнасці ў 2017 годзе вам немагчыма абысціся. Гэтыя дзве якасці дапамогуць вам спраўляцца з цяжкасцямі, калі раптам яны ўзнікнуць. Гэты год будзе годам перамен. Прыемныя сюрпрызы і нечаканыя знаёмствы дапамогуць у прасоўванні па кар'ернай лесвіцы. Можна задумацца над адкрыццём сваёй справы. Адзінае – не рызыкаваць. А Певень адорыць вас шчодрымі падарункамі, ён не будзе скупіцца на іх колькасць. Грашовыя пытанні не будуць праблемай, грошай будзе хапаць не толькі на бязбеднае існаванне, але і на тое, каб зрабіць запас. Нягледзячы на добрае самаадчуванне, вам трэба паклапаціцца пра органы стрававання.

Марыя УРБАНОВІЧ.





Пажадана, каб імя было не толькі мілагучным само па сабе, аднак і добра стасавалася з прозвішчам і імем па бацьку. Марына і Павел Целяжэвічы назвалі дачку Янай. Фота Святланы СЕННІКАВАЙ.

### Колькасць шлюбаў, зарэгістраваных за 2016 год

| Раён | Колькасць шлюбаў |
|---|---|
| Ашмянскі | 306 |
| Астравецкі | 142 |
| Валожынскі | 233 |
| Вілейскі | 267 |
| Маладзечанскі | 960 |
| Мядзельскі | 173 |
| Смаргонскі | 422 |
| **Усяго па рэгіёне** | **2503** |

# Салахацін, Арыстарх, Капіталіна, Марыка

## Самыя рэдкія імёны за 2016 год у рэгіёне

**Як карабель назавеш, так ён і паплыве, – сведчыць народная мудрасць. Тое ж самае датычыцца і выбару імені дзіцяці. Таму да гэтага пытання трэба падыходзіць асэнсавана, раяць спецыялісты.**

### Топ самых рэдкіх і распаўсюджаных імёнаў

| Раён | Колькасць народжаных дзяцей | Самыя распаўсюджаныя імёны | Самыя рэдкія імёны |
|---|---|---|---|
| Астравецкі | 315 | **Сярод дзяўчынак** – Дар'я, Сафія. **Сярод хлопчыкаў** – Максім, Ягор, Аляксандр. | **Сярод дзяўчынак** – Алівія, Мія, Эліна. **Сярод хлопчыкаў** – Сава, Арыстарх, Даміян. |
| Ашмянскі | 634 | **Сярод дзяўчынак** – Ульяна, Ксенія, Валерыя, Аляксандра. **Сярод хлопчыкаў** – Арцём, Мікіта. | **Сярод дзявочых** імёнаў 16 у спісе рэдкіх: Агата, Аліна, Антаніна, Вера, Бажэна, Дарына, Кіра, Ліяна, Мая, Марына, Пелагея, Роза, Соф'я, Эма, Эрыка, Яна. **19 хлапечых** імёнаў трапілі ў лік рэдкіх: Адрыян, Усевалад, Дэвідас, Лявон, Назар, Патап, Прохар, Радмір, Расціслаў, Арцём, Богдан, Мікалай, Артур, Алег, Даніла, Ігар, Святаслаў, Эрык. |
| Валожынскі | 400 | **Сярод дзяўчынак** – Ганна, Марыя, Сафія (Соф'я), Ксенія, Паліна. **Сярод хлопчыкаў** – Максім, Арцём, Мікіта. | **Сярод дзяўчынак** – Агнія, Меланія, Злата, Адэліна, Сабрына, Ясенія. **Сярод хлопчыкаў** – Платон, Леанард, Акім, Цімур, Радзівон, Сямён, Леў. |
| Вілейскі | 446 | **Сярод дзяўчынак** – Ксенія, Дар'я, Ганна, Марыя, Сафія, Вікторыя, Мілана, Ульяна. **Сярод хлопчыкаў** – Мікіта, Аляксей, Глеб, Мацвей, Раман, Кірыл, Яраслаў. | **Сярод дзяўчынак** – Меліса, Віта, Альміна, Злата. Капіталіна, Алівія. **Сярод хлопчыкаў** – Алесь, Дамір, Дэніз, Ніканор, Салахацін. |
| Смаргонскі | 1239 | **Сярод дзяўчынак** – Вікторыя, Марыя, Анастасія, Ксенія, Сафія. **Сярод хлопчыкаў** – Арцём, Максім, Кірыл, Іван, Аляксандр, Раман. | **Сярод дзяўчынак** – Алісія, Ванэса, Лія, Марыка, Настасся, Серафіма, Глафіра. **Сярод хлопчыкаў** – Вадзім, Герман, Дзям'ян, Елісей, Карым, Крысціян, Леў, Святагор, Эмір. |
| Маладзечанскі | 1708 | | |
| Мядзельскі | 247 | У ЗАГСе пакуль не падлічылі, якія імёны былі самыя распаўсюджаныя. Аднак самае рэдкае імя, якое запомнілася спецыялістам, – Ніколь. | |
| **Усяго па рэгіёне** | **4989** | | |

– Пажадана, каб імя было не толькі мілагучным само па сабе, аднак і добра стасавалася з прозвішчам і імем па бацьку, – адзначае начальніца аддзела ЗАГСа Валожынскага райвыканкама **Тамара Яныш.** – Калі, напрыклад, імя па бацьку мяккае па гучанні, то імя лепш падабраць з цвёрдымі гукамі альбо санорнымі. Па маім досведзе, людзі з "мяккім" імем лагодныя па характары. Калі ж імя па бацьку з цвёрдымі літарамі, гэта будзе надаваць характару большай рашучасці, мужнасці. Варта стасаваць імя з імем па бацьку.

Спецыялісты сутыкаюцца і з тым, што імёны, якія цяжка вымаўляюцца, дзеці стараюцца замяніць на больш простыя.

– Часам у парах, дзе муж з далёкага замежжа, узнікаюць праблемы, як назваць дзіця, – адзначае Тамара Яныш. – Муж хоча даць імя блізкае да свайго менталітэту, жонка – славянскага паходжання. Бывае, вельмі доўга спрачаюцца, прыходзіцца тлумачыць, што па законе, калі муж і жонка не могуць вызначыцца, гэту місію могуць выканаць органы апекі. Аднак у маёй практыцы да гэтага не даходзіла, бацькі хутка прыходзілі да паразумення. Звычайна выбіраюць славянскія імёны.

Калі для дзіцяці выбіраюць нераспаўсюджанае ў нашай краіне імя, спецыялісты тлумачаць, што, магчыма, дзіця будзе мець цяжкасці ў зносінах. Аднак па пісьмовай заяве бацькоў у пасведчанні аб нараджэнні дадуць любое ўпадабанае імя.

**Па выніках 2016 годзе на Валожыншчыне назіраўся бум нараджальнасці. З'явіліся на свет 400 дзяцей. Такіх вынікаў не было ад 1993 года. Да прыкладу, у 2015 годзе нарадзіліся 326 немаўлят.**

Галіна СУДНІКОВІЧ
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92





## У "Смаргоні" з'явіўся юбілейны лагатып

СМАРГОНЬ

**Выбралі юбілейны лагатып футбольнага клуба "Смаргонь" на наступны сезон.**

На конкурс падалі дзевяць варыянтаў ад васьмі аўтараў. Яны былі са Смаргоні, Мінска, Ашмянаў, Масквы, Кіева.

– Па выніках галасавання на афіцыйнай старонцы ФК "Смаргонь" "Укантакце" выбралі тры лагатыпы, – расказаў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**. – Але пры вызначэнні лепшага кіраўніцтва клуба больш увагі надавала арыгінальнасці. У выніку яно прыняло рашэнне абраць лагатып, аўтарам якога з'яўляецца **Аляксандр Жукаў** з Масквы. Спадзяёмся, што ў асобе Аляксандра мы набылі яшчэ аднаго заўзятара з Расіі. Мы рады, што з дапамогай розных конкурсаў і мерапрыемстваў у сацсетках пра нас становіцца вядома за межамі роднай Беларусі.

Аляксандру вышлюць памятныя прызы ад ФК "Смаргонь".

**Аддзел інфармацыі.**




Фота забяспечанае Уладзімірам АМБРАСЕВІЧАМ.

**Так выглядае юбілейны лагатып футбольнага клуба "Смаргонь" на наступны сезон.**

# Зладзілі "коньпаратыў" для выхаванцаў школы-інтэрната

МАЛАДЗЕЧНА

**Напярэдадні Новага года ў Палачанах зладзілі дабрачынную ёлку для выхаванцаў школы-інтэрната з Івянца.**



Фота Наталлі ТУР.

**Пасля прадстаўлення выхаванцы Івянецкай школы-інтэрната змаглі адчуць сябе сапраўднымі коннікамі.**

Ініцыятыву праявіла супрацоўніца конезавода **Алена Белавус**:

– Цягам года мы неаднаразова ладзілі дабрачынны пракат коней. Бачылі, як дзеткі з асаблівасцямі з задавальненнем каталіся на коніках, кармілі іх, таму і вырашылі, чаму б не паказаць ім сапраўднае навагоднее прадстаўленне, дзе былі б і Дзед Мароз са Снягурачкай, і выкананне жаданняў, і салодкія падарункі і, вядома, коні.

Канешне ж, якія Палачаны без коней? Таму нічога дзіўнага ў тым, што Дзед Мароз са Снягурачкай тут былі з капытамі, грывамі і хвастамі.

Дзедам Марозам была кабыла Любава, Снягурачкай – кабыла Сянтана.

Але калі гэтыя Дзед Мароз са Снягурачкай паказвалі дзецям свае здольнасці, то Дзед Мароз са Скамарохамі з гімназіі-каледжа мастацтваў з задавальненнем гуляў з дзецьмі і ўважліва слухаў, як яны спявалі і расказвалі яму вершы.

Выконваў ролю Дзеда Мароза **Павел Дзянісік**, навучэнец гімназіі-каледжа. Дапамагалі яму Скамарохі, аднагрупніцы Паўла – **Марыя Барэйка і Вікторыя Савельева.**

Павел прызнаўся, што ролю Дзеда Мароза ён выконвае не першы раз, але ў Палачаны трапіў упершыню.

– Тут атмасфера адрозніваецца ад іншых дзіцячых ранішнікаў. Па-першае, калі Дзед Мароз едзе на кані, гэта выклікае неверагоднае захапленне ў маленькіх гледачоў. А па-другое, калі ў Палачаны прыязджаюць такія дзеткі, як з Івянца, мы стараемся з усіх сіл, каб яны паверылі ў цуд.

Суправаджаў дзяцей з Івянца супрацоўнік інтэрната **Андрэй Басько**:

– Мы з дзецьмі ўпершыню ў Палачанах, і ўражанні ад гэтага месца самыя пазітыўныя. Дзеці ўжо паспелі расказаць, што ім спадабалася тут: і артысты, і пачастункі, і, вядома, коні. Інтэрнат у нас вялікі, у ім выхоўваецца 66 дзетак, а ў Палачаны прыехалі толькі восем. Многіх забралі на канікулы, другія раз'ехаліся на іншыя мерапрыемствы, але, калі нас запросяць, з задавальненнем прыедзем у Палачаны яшчэ.

А арганізатары ранішніка своеасаблівa далі зразумець гасцям з Івянца, што іх тут чакаюць і рады бачыць заўсёды.

Падчас ранішніка артысты **Алена Белавус, Кацярына Чырыца і Анастасія Яцына** падарылі Івянецкай школе-інтэрнату падкову на шчасце. А такі сімвалічны падарунак абы-каму не дораць.

**Наталля ТУР.**

МІНІ-ФУТБОЛ

## Астраўчане працягваюць лідзіраваць

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У шостым туры чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе каманды рэгіёна дабіліся дзвюх перамог і адной нічыёй. Гульні праходзілі 24 снежня. "Ашмяны" дома прымалі "Легенду-Віцязь" з Іўя. Хоць госці пасля першага тайма вялі 2:1, матч завяршыўся ўнічыю 3:3. Па інфармацыі Гродзенскай гарадской федэрацыі футбола, лепшым гульцом ашмянскай каманды стаў **Дзмітры Велісевіч**.

У Гервятах "Меліяратар" з Астраўца гуляў з "Навагрудкам" і ў напружаным паядынку перамог 7:6. Лепшым гульцом у "Меліяратара" стаў **Станіслаў Тумкевіч**, які забіў два галы.

"Мядзведзі" са Смаргоні ў спартыўна-аздараўленчым комплексе "Юнацтва" прымалі "Беллакт" з Ваўкавыска. Гаспадары напачатку прайгравалі, але ўжо ў першым тайме адыграліся і выйшлі наперад 5:2. "Мядзведзі" давялі матч да перамогі 7:5. Зноў лепшым гульцом у іх стаў **Іван Смольскі.**

"Меліяратар" па-ранейшаму лідзіруе ў групе "Поўнач": на рахунку каманды 13 ачкоў. На два ачкі менш у "Мядзведзяў", якія займаюць другое месца. "Ашмяны" застаюцца на апошнім, шостым, месцы, але каманда набірае ачкі ў другім туры запар.

На шостым і сёмым месцах у спісе бамбардзіраў чэмпіянату **Юры Марціновіч** з "Мядзведзяў" і **Аляксандр Арлоўскі** з "Меліяратара". Забілі яны па 10 галоў.

**Матчы сёмага тура пройдуць 8 студзеня.**

## На турніры ў Мядзеле перамаглі госці з Паставаў

МЯДЗЕЛ, ВІЛЕЙКА

У Мядзельскім фізкультурна-аздараўленчым цэнтры прайшлі вырашальныя матчы міжрэгіянальнага турніру па міні-футболе. Вілейскі "Фламетр" у матчы за трэцяе месца перамог "Спадарожнік" 8:5.

У фінале сустрэліся каманды "ФАЦ" з Мядзела і "Паставы". Пастаўчане выйгралі 3:2 і сталі пераможцамі турніру.

**Аддзел інфармацыі.**

# Федэрацыя футбола: у Маладзечне прысутнічае нежаданне развіваць футбол

МАЛАДЗЕЧНА

Першы намеснік старшыні Беларускай федэрацыі футбола **Сяргей Сараф'ян** напрыканцы года зладзіў брыфінг, на якім адказваў не на пытанні журналістаў, а на пытанні балельшчыкаў і ўсіх тых, хто неабыякавы да футбола.

У ліку іншых пытанняў, паступіла і пытанне з Маладзечна:

**– Ці дапаможа федэрацыя заявіць Маладзечна ў першую лігу?**

– Развіццё футбола ў рэгіёнах перш за ўсё адбываецца там, дзе ёсць зацікаўленасць мясцовых уладаў.

У Маладзечне прысутнічае толькі нежаданне развіваць футбол.

І АБФФ ніяк не можа на гэта паўплываць. Мы ўжо дапамагалі гэтаму раёну, але сродкі выдаткоўваюцца нерацыянальна. Выдзелілі сінтэтыку апошняга пакалення, яе паклалі ў Чысці. Але для занятках дзяцей туды не возяць. Калі будзе жаданне ўладаў – **Сяргей Мікалаевіч** (Румас – заўвага "РГ") з імі пагутарыць. Але падстаў для гэтага няма.

### Мікалай Шрымф: у нас няма такой хустачкі, каб ёй махнуў і ўсё адразу было

– Сяргей Сараф'ян не ведае, як ідуць справы ў маладзечанскім футболе, – кажа намеснік начальніка аддзела адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама **Мікалай Шрымф**. – Такая схема, калі варагі з'язджаюцца з усяго свету туды, дзе запахла грашыма, нам не падыходзіць. У Маладзечне даўно выбудавана ўся інфраструктура.

Мікалай Уладзіміравіч патлумачыў, што ў горадзе паспяхова працуе і развіваецца дзіцячая футбольная школа.

– Маладзечанская ДЮСШ гадуе добрыя кадры. У нас ёсць свая каманда, якая паспяхова выступала і будзе выступаць і сёлета ў другой лізе. Гульцы з гэтай каманды бачныя не толькі маладзечанцам, але і ўсёй рэспубліцы. Прозвішчы маладзечанцаў гучаць і ў нацыянальнай зборнай, і ў камандах, якія гуляюць у вышэйшых дывізіёнах.

Што датычыцца фразы намесніка старшыні федэрацыі футбола накont таго, што стадыён у Чысці не выкарыстоўваецца, Мікалай Шрымф адказаў:

– Ну, гэта проста смешна! Чысць ад Маладзечна знаходзіцца ў 20 кіламетрах. Хіба гэта адлегласць, каб не ездзіць туды? Мы прымалі ўзважанае рашэнне, калі вырашылі класці штучнае поле ў Чысці. Там зручны пад'езд, пракладзеныя камунікацыі, абсталяваныя распранальні і прыбіральні. Поле трэніровачнае, не для гульняў. Таму я лічу, што працэсей там зрабіць філіял ДЮСШ, дзе стане працаваць адзін трэнер, які будзе трэніраваць дзяцей, чым гаварыць пра тое, як перанесці штучнае поле ў Маладзечна. На жаль, у нас няма хусцінкі, якой дастаткова махнуць і ўсё з'явіцца, але ў нашых планах зрабіць там штучнае асвятленне.

Калі гаварыць пра планы на 2017 год, Мікалай Шрымф прызнаўся, што ў дадзены момант ідзе праца з бюджэтам.

– Калі будзе вядома, што ў нас будзе з фінансаваннем, мы запросім зацікаўленых у развіцці футбола ў Маладзечне, тых жа трэнераў, каб пагутарыць пра тое, як будзем працаваць у 2017 годзе. Але я мяркую, што працаваць будзем гэтак жа, як і ў сезоне 2016.

**Наталля ТУР.**






## Да святочнага стала

### Закуска з агуркоў і сёмгі



*2-3 агуркі, 50 г сыру, 2 чайныя лыжкі смятаны, 200 вэнджанай сёмгі, некалькі галінак кропу, палова лімона, соль і перац – на смак.*

Агуркі нарэжце кружочкамі таўшчынёй прыкладна 1 см. Змяшайце сыр са смятанай і нарэзаным кропам. Пасаліце, паперчыце і перамяшайце. Выкладзіце атрыманую масу на кружочкі агурка. Лустачкі сёмгі нарэжце доўгімі палоскамі, скруціце палоскі ў ружачкі і пакладзіце на агурок. Упрыгожце кропам і надзёртай на дробнай тарцы цэдрай лімона.

### Тартары з ласося і авакада

*100 г ласося, 1 спелае авакада, 1 цыбуліна-шалот, 1 ст. лыжка каперсаў, палова лімона, 1 ч. лыжка гарчыцы, 1 ст. лыжка аліўкавага алею, соль і перац – на смак.*

Ласось нарэжце дробнымі кубікамі. Цыбулю-шалот ачысціце, дробна нарэжце і дадайце да рыбы разам з каперсамі і гарцычай. Папырскайце аліўкавым алеем і лімонным сокам, пасаліце і паперчыце. Добра перамяшайце. Мякаць авакада нарэжце кубікамі і таксама папырскайце лімонным сокам. З дапамогай фармовачнага кольца выкладзіце тартар слаямі на талерку. Упрыгожце лімоннай цэдрай і каперсамі.

**Проста Марыя.**



## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | | 6 | | 2 | | | |
| | | | | | 7 | | 2 | 9 |
| 4 | 3 | | | 1 | | | | |
| | 7 | | | | 5 | | 4 | 8 |
| | | | | | | | | |
| 6 | 4 | | 3 | | | | 5 | |
| | | | | 7 | | | 8 | 4 |
| 7 | 6 | | 5 | | | | | |
| | | | 1 | | 8 | | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Буйная сярэбраная манета ў 16-19 стагоддзях на тэрыторыі Еўропы.
3. Прозвішча каханай дзяўчыны Кастуся Каліноўскага.
4. Якому гораду перайшоў статус культурнай сталіцы Беларусі ў 2017 годзе?
5. Мікрараён у Маладзечне, які раней быў гарнізонам Войска Польскага.
7. Кастрычніцкі знак задыяка.
11. Балота, багна.
12. Сталіца Таджыкістана.
14. Яе кветку шукаюць у Купальскую ноч.
16. Які з гарадоў нашага рэгіна ўпершыню ўзгадваецца ў летапісах у 1324 годзе?
18. Зборнік малітоўнай паэзіі Р. Барадуліна.
20. Варшаўскія могілкі, на якіх пахаваны Станіслаў Манюшка.
21. Хвойнае дрэва, якое скідвае хвою на зіму.
23. Клас жывёл, да якога адносіцца жывёла-сімвал "Рэгіянальнай газеты".
26. Накрывае святочны стол.
27. Лацінаамерыканская краіна, назва якой перакладаецца з іспанскай мовы як "маленькая Венецыя".
28. Рэдкая каштоўная рэч.
31. З яго робяць і цукар, і боршч.
32. Возера, на беразе якога месціцца Мядзел.
33. Чыгуначная станцыя па дарозе з Мінска ў Вільню.
38. Скульптар, аўтар скульптуры "Мядзведжая акадэмія" ў Смаргоні.
39. Вёска, у якой адбываецца дзеянне твора Івана Мележа "Людзі на балоце".
42. Вельмі гарачае надвор'е.
43. Рыба на гербе Астраўца.
44. Народная назва пешаходнай вуліцы Прытыцкага ў Маладзечне.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Паганскі бог вясны і сонца.
6. Вынаходніцтва нашай зямлячкі Іды Рэнзенталь.
8. Амерыканская адзінка вымярэння вагі.
9. Доўгая шырокая спадніца.
10. Народны звычай калектыўнай дапамогі.
13. Модны аксесуар і ахова ад сонца.
15. Жывёла-сімвал 2017 года.
17. Месца, дзе варылі піва.
19. Нявеплівы чалавек і назва твора Алаізы Ажэшкі.
22. Нацыянальная птушка Фінляндыі.
24. Японскае мастацтва вырабу фігурак з паперы.
25. Птушка, якая сёлета стала сімвалам Валожынскага раёна.
29. Танец з тактам ¾.
30. Класік беларускай літаратуры, пахаваны ў вёсцы Жупраны на Ашмяншчыне.
31. Штрафны кідок у хакеі.
34. Хіт гурта "Крамбамбуля".
35. Самы моцны алкагольны напой на Балканах.
36. Самая важная калядная страва.
37. Гэта слова, што абазначае вельмі высокі будынак, у беларускую мову ўвёў Рыгор Барадулін.
40. Беларускі паэт, які хаваўся пад псеўданімам Максім Кніжнік.
41. Знак @ у рускіх называецца "сабака", у палякаў – "малпа", а ў беларусаў – … .
43. Прылада працы, з якой мы ідзём у лес па ялінку.
44. Архітэктурны стыль, у якім пабудаваны касцёл св. Міхаіла Арханёла ў Івянцы.
45. "Працуй пільна, і тут будзе …".

### Адказы на крыжаванку з №53

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Галалёд. 2. Пярсцёнак. 5. Кітабы. 6. Забудова. 10. Валасковіч. 13. Сінгулярнасць. 14. Абрус. 15. Абшар. 17. Абібок. 22. Ровар. 24. Планктон. 27. Орлік.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 3. Аброк. 4. Возера. 7. Абапал. 8. Аўрора. 9. Арка. 11. Маса. 12. Прадуха. 15. Абрыс. 16. Ялінка. 18. Скульптур. 19. Эклектыка. 20. Бровар. 21. Гармонія. 23. Сваяк. 24. Потэр. 25. Абарыген. 26. Кросны.



## ● ГАРАСКОП 6-12 СТУДЗЕНЯ

**Авен.** Адсутнасць упэўненасці з-за парушэння абменных працэсаў можа адбіцца на функцыях печані і аслабленні сардэчнай дзейнасці. Актыўныя фізічныя нагрузкі замяніце масажам.

**Цялец.** Нічога незвычайнага не адбудзецца, тым больш, што вы прывыклі шмат працаваць і вам гэта не ў навінку і не ў цяжкасць. Можа, узнікне жаданне паглядзець на ўсё пад іншым вуглом, а змяніўшы сваю жыццёвую пазіцыю, з'явіцца і жаданне змяніць нешта ў сваім жыцці.

**Блізняты.** Для паляпшэння матэрыяльнага становішча выкарыстоўвайце свой талент і інтуіцыю. Аднак не спрабуйце змяніць жыццёвыя ўстоі, каб не страціць сувязь са сваімі каранямі.

**Рак.** Атрымлівайце асалоду ад прыемных момантаў, але не забывайце захоўваць здаровы сэнс.

**Леў.** Не шкадуйце часу на размовы з блізкімі, нават калі вам сумна ў чарговы раз абмяркоўваць даўно вырашаныя пытанні.

**Дзева.** Вам варта было б паклапаціцца пра свае лёгкія, пасачыць за сваім дыханнем. Не дапускайце перагрузак, пасля якіх вы ніяк не можаце аддыхацца. Вам карысная дыхальная гімнастыка, да яе можна дадаць любыя практыкаванні, якія развіваюць лёгкія.

**Шалі.** Запішыцеся на якія-небудзь курсы ці самастойна пачніце наведваць розныя семінары. Так вы зможаце абзавесціся новымі знаёмымі і аднадумцамі.

**Скарпіён.** Можа завяршыцца важны этап у вашай кар'еры, так што не варта спяшацца з прыняццем рашэнняў. Добра ўзважце ўсе шанцы. Вельмі не рэкамендуецца рэзка рэагаваць на выказванні, хай нават цалкам недарэчныя.

**Стралец.** Студзень – гэта менавіта той месяц, калі можа раптам узнікнуць алергія, арганізм востра і негатыўна рэагуе на новыя медыкаменты, а невялікія траўмы зажываюць даўжэй, чым хацелася б.

**Казярог.** Спрыяльны час для занятках ёгай, духоўных практык і нават наведвання псіхолага.

**Вадалей.** Добры час для павышэння кваліфікацыі, прафесійнага навучання. Новыя веды адчыняць вам шлях да поспеху.

**Рыбы.** Калі вы сёлета плануеце рамонт, то можна набываць будаўнічыя, аддзелачныя матэрыялы, інструменты, іншае.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

тэлетыдзень


## ● НАДВОР'Е

### 7 студзеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -15 / -15 | | -18 / -16 | | -17 / -13 | | -14 / -12 | |
| | 749 | ↓ 6 | 745 | ↓ 5 | 745 | ↙ 4 | 739 | ← 4 |
| Вільня | -13 / -14 | | -16 / -15 | | -19 / -16 | | -15 / -13 | |
| | 761 | ↓ 4 | 756 | ↙ 1 | 753 | ↖ 1 | 750 | ← 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.30
Захад 17.07
Даўжыня дня 7.37

Усход 13.39
Захад 2.57
Квадра 2




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -28,9 °C у 1987 годзе
Максімальная тэмпература +6,6 °C у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,3 мм у 2010 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Чакайце праз тыдзень каляндар садавода і агароднїка па культурах на 2017 год.**



● "НЕ ГУБЛЯЙ НІВОДНАГА ДНЯ"




Фота забяспечанае Анастасіяй СЯНЬКО.

Фотаздымкаў з Радзівонам – мноства. І кожны з іх прыгожы па-свойму.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якое свята для вас больш важнае: Каляды ці Новы год?



**Максім Башко, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Для таго, каб павесяліцца, паспяваць, патанцаваць, больш падыходзіць Новы год. А вось пабыць сур'ёзным і задумацца пра сэнс жыцця лепш на Каляды.



**Аляксандра Абрамовіч, навучэнка:**
– Новы год. Яго ўся краіна так ярка і шырока адзначае. На Новы год настрой заўсёды больш святочны. Вакол агеньчыкі, гірлянды.



**Крысціна Бабіцкая, вучаніца:**
– Святы аднолькава важныя. Новы год – вясёлае свята ў кампаніі сяброў. Каляды – гэта час, калі трэба быць побач з сям'ёй. Шмат розных традыцый звязана менавіта з Калядамі, а не з Новым годам.



**Таццяна Крайнова, пенсіянерка:**
– Больш важныя, напэўна, Каляды. Аднак, як і ўсе, адзначаем абодва святы. У нас з мужам дзве дачкі. Яны маюць свае сем'і. Новы год яны могуць адзначаць асобна. А вось на Каляды наша вялікая сям'я заўсёды разам.



**Марыя Каўрэцкая, навучэнка:**
– Канешне, Новы год! У гэта свята, калі ідзеш па вуліцы, нават зусім незнаёмыя людзі ўсміхаюцца і віншуюць цябе з Новым годам.



**Уладзімір Пятровіч, часова не працуе:**
– Святы раўназначныя для мяне. Але яшчэ з дзяцінства Новы год успрымаю, як свята школьнае, сяброўскае. А Каляды – сямейнае.



**Вераніка Гаўрыленка, вучаніца:**
– Каляды больш важныя. Бо гэта свята мы заўсёды адзначаем з сям'ёй.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№1 (1132) 6.01.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 22. Падпісана ў друк у 9.00 5.01.2017.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.